# ПАГОНЯ

Аўторак
4 траўня 1999 г.
№ 31 (408)
Кошт 20.000 руб.

## Як абіраюць просты народ?

**Гарвыканкам прыняў рашэнне "Аб арганізацыі падвозу насельніцтва горада Гродна да садаводчых таварыстваў". Дакумент прыняты акурат у дзень нараджэння Леніна - 22 красавіка бягучага года. Так сказаць, падарунак працоўным.**

Аўтапарку N1 даручана арганізаваць і забяспечыць рэгулярны аўтобусны рух. Мясцовая чыгунка таксама прычынілася да перавозак грамадзян да "сотак". Для ўдзельнікаў вайны і інвалідаў прадугледжаны ільготы.

За клопаты трэба падзякаваць. Аднак паўстае пытанне. Многія так званыя дачнікі ўжо звярнулі ўвагу на кошты праезду. І вельмі абураны іх неабгрунтаванасцю. Напрыклад, як расплачваць, што за праезд па маршруце пл.Савецкая - возера Юбілейнае даўжынёю ўсяго 8,2 кіламетра з пасажыра бяруць 59 000 рублёў. У той жа час, скажам, грамадзянін мае намер завітаць у садаводчае таварыства "ДХК-Лясное" ці «ДХК- Мерыдыян». Гэта адпаведна 10,9 км і 13,4 км. Аплата роўная ў першым выпадку 37 000 , у другім - 35 000 рублёў. Нейк дзіўна лічаць высокія службовыя асобы з дыпломамі эканамістаў.

Магчыма, праезд па іншых маршрутах для сваіх работнікаў даплочваюць аўтапарку прадпрыемствы. Так, маршрут ГПА «Азот» - «Хімік-2» налічвае 35,3 км. Кошт праезду - 30 000 рублёў. З падарожнага, які едзе ў садаводчае таварыства "Хутаранін", што ў 27,6 км ад горада, патрабуюць набыць білет коштам 80 000 рублёў. Праезд па маршруце ДКХ - «Азот» даўжынёю 16,6 км каштуе 37 000 рублёў.

Вядома, што на пасяджэнні гарадскога выканаўчага камітэта на гэтыя пытанні былі дадзены вычарпальныя адказы. З інфармацыяй выступіла начальнік упраўлення па эканоміцы і рынкавых адносінах З.Сінельнік. А вось простаму электарату, які нядаўна спяшаўся аддаць свой голас за начальнікаў, ніхто нічога не патлумачыў. Можа, наваспечаныя дэпутаты абароняць інтарэсы выбаршчыкаў?

Адзін дзядок, з тых, хто гарой стаіць за цяперашні рэжым, не вытрымаў. Маўляў, з нас, уладальнікаў садовых участкаў, што паабапал возера Юбілейнага, лупяць грошы, бо гэты маршрут найбольш папулярны. Хто на «соткі», хто адпачыць ля вады спяшаецца. Народу прыязджае шмат, таму падправіць аўтапаркаўскі ці гарадскі бюджэт не грэх за людскі кошт.

**Уладзімір Кавалёў**

## Не ў пашане белы?

**Гродна адсвяткаваў Першамай і неўзабаве ўрачыста адзначыць чарговым угодкі Дня Перамогі. Цэнтр горадаззяе чысцінёю. На плошчы імя правадыра пралетарыяту ўсіх часоў і народаў Леніна /Ульянава/ на флагштоках замацаваны чырвоныя і зялёныя палотнішчы, што сімвалізуюць колеры цяперашняга дзяржаўнага сцяга Беларусі.**

Каляровымі сцяжкамі аздоблены тралейбусныя слупы ўздоўж дарог. Матэрыял самага рознага колеру, але чамусьці пераважаюць сінія, зялёныя, жоўтыя, чырвоныя, іншых змрочных адценняў.

У гэтым сухвецці няма белага. Відаць, ідэолагі мясцовага кшталту вырашылі, што нават далёкае суседства белага і чырвонага можа выклікаць у насельніцтва непатрэбную асацыяцыю, нагадаць пра старажытны нацыянальны сцяг - бел-чырвона-белы, страшэнна ненавісны цяперашняму рэжыму. Яго «вертыкальшчыкі» баяцца, як агню.

Белы колер - здавён для беларусаў колер сумлення і чысціні думак. Тым, хто запляміў сваю душу, ён нагадвае пра здрадніцтва. Таму чынавенства пазбягае нават напаміну аб ім. Была б воля, забаранілі б наогул.

Ёсць і такое меркаванне. Неўзабаве ў Гродна з'едуцца інтэгратары. Сярод іх будзе і галоўны менскі аб'яднальнік. Пабачыць суседства белых і чырвоных сцяжкоў, раз'юшыцца. Гарадзеншчына для яго і так занадта свабодалюбівы дэмакратычны край. Вось тутэйшае начальства і стараецца дагадзіць гаспадару. Але як вушамі сонца не закрывай ...

**Сцяпан Ярашчук**




**4 і 5 траўня** - воблачна, з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы. Вецер паўднёва-ўсходні, 3-8 м/с. Тэмпература паветра ўначы +1...+4, удзень +10...+12.

## Першамайскі марафон працверазіў людзей

**Першага траўня гарадзенцы прыгадалі савецкую традыцыю і адсвяткавалі Першамай.**

Мерапрыемства пачалося з афіцыйнай часткі ў 10 гадзін раніцы на плошчы Леніна. Пад статуяй правадыра гучалі прамовы на звыклыя тэмы - пра чэсную працу, нашы працоўныя поспехі ды іншае.

Неафіцыйная частка праходзіла ў цэнтры горада і ў гарпарку Жылібера. Тыя, хто зленаваўся распачынаць пасяўную на лецішчах, наладзілі маёўкі на маладой траўцы парка. Працоўныя калектывы, паўтыкаўшы традыцыйныя першамайскія фецішы - зялёныя галінкі з рознакаляровымі шарыкамі і стужачкамі - у зямлю, арганізавалі пікнічкі. Прычым, занятыя былі ўсе лаўкі, палянкі і нават пянькі. Закупіўшы гарэлкі, піва і закускі, народ ўзяўся снедаць. Добра, што гандлёвая сетка паклапацілася пра ўсе зручнасці, наладзіўшы продаж ежы і пітва з латкоў. Была і музыка - на канцэртнай пляцоўцы скакалі беларускія самадзейныя танцавальныя гурты і граў духавы аркестр. Быў увесь набор забавак народнага гуляння: салдацкая каша, латарэі, атракцыёны.

Нязручнасць была адна, але вельмі вялікая. Добра набраўшыся, адпачываючыя нястройнымі калонамі рушылі на прыпынак на Савецкую плошчу. Некаторыя ўсё ж такі хацелі трапіць дадому, у родны ложак. Але іх чакала жорсткае расчараванне. Аўтобусы і тралейбусы не хадзілі па старому масту, і даехаць у занёманскую частку горада было немагчыма. Дарэмна маёўшчыкі на некалькі гадзін застылі ў нямым чаканні - транспарт нахабна паварочваў пад самым носам на Дом сувязі, пакідаючы аматараў лёгкай язды на волю лёсу.

Так што, першамайская «дэманстрацыя» ў нашым горадзе ўсё ж такі адбылася пасля многіх гадоў перапынку. А што было рабіць? Народ рушыў па хатах пешшу, таму што транспартны рух праз мост быў перакрыты амаль што на два дні з-за тэрміновага рамонту ўсіх цэнтральных дарог. Пры гэтай паспешнасці дзіравыя тратуары застаюцца, як былі. Бо іх з дарогі не відаць, і важная дэлегацыя расійска-беларускіх вярхоў, якую хутка чакаюць у Гродне, напэўна, не будзе блукаць па яшчэ страшнейшых вышчарбленых гарадскіх двара́х і маленькіх вулачках.

Але быў і свой станоўчы эфект ад гэткага марафону: народ ад спартыўнай хады пачынаў рытмічна дыхаць і хутка цверазеў.

**Алена Сіневіч**

## Цудоўны збанок-гаварун

... У кожнага тэатра ёсць спектаклі, якія маюць шчаслівы лёс. Не выключэнне і Брэсцкі абласны тэатр лялек. Так, сярод найбольш удалых пастановак гэтага тэатра можна назваць спектакль **«Збанок-гаварун»** паводле А.Абу-Бакара. Створаны яшчэ напачатку 80-х гадоў, ён адразу займеў вялікі поспех, яго паглядзелі і палюбілі тысячы юных і дарослых гледачоў. Прычым не толькі ў Брэсцкай вобласці, але і ў многіх іншых гарадах Беларусі. Горача віталі «Збанок-гаварун» і ў сонечнай Малдове, па якой гастраляваў тэатр з гэтай пастаноўкай.

Чым жа выкліканы поспех **«Збанка...», у чым яго прыгажосць і прыцягальнасць?** Бадай, хутчэй за ўсё, у тым прыгожым і мудрым сэнсе, які закладзены ў аснову пастаноўкі. Адвечны канфлікт дабра і зла, сцвярджэнне таго, што ўдача і шчасце нарэшце паварочваюцца тварам да тых, хто добры сэрцам і душой, у каго працавітыя рукі, хто глядзіць на ўсіх шчыра і адкрыта, без усялякай пагарды...

Менавіта такія людзі змогуць стварыць сапраўдны чароўны збанок, які адкрые для іх усе свае таямніцы.... Урэшце, не будзем пераказваць змест п'есы. Падзеяў у ёй шмат, усе яны дынамічныя, маляўнічыя і захапляльныя. Таму лепей за ўсё паглядзець сам спектакль.

І такую магчымасць гарадзенскі глядач зусім хутка будзе мець. У траўні Брэсцкі абласны тэатр лялек прыязджае на гастролі ў горад над Нёманам, дзе будзе выступаць з 10 па 21 число. На гастрольнай афішы БТЛ - «Збанок-гаварун», які, спадзяемся, прынясе гарадзенцам-тэатралам толькі самыя добрыя ўражанні. Як спадзяемся і на тое, што гэты спектакль будзе цікавы гледачам самага рознага ўзросту.

**Ігар Сідарук,**
**загадчык літаратурнай часткі БТЛ.**



**На здымку:** сцэна са спектакля «Збанок-гаварун»

## Лукашэнка незадаволены

**«Рознагалоссі былі немалыя і на сённяшні дзень яны засталіся», — заявіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, каментуючы ў аэрапорце перад вылетам з Масквы вынікі сваіх перамоваў з расійскім кіраўніцтвам аб стварэнні беларуска-расійскай саюзнай дзяржавы.**

«Сёння было прынята рашэнне двух прэзідэнтаў узгадніць пазіцыю бакоў там, дзе гэта магчыма, — сказаў А.Лукашэнка, — аднак засталіся рознагалоссі па блоку праблем, датычных кіраўніцтва Саюзам». Прэзідэнт Беларусі адзначыў, што «ў беларусаў больш жорсткі варыянт — саюзная дзяржава павінна ўзначальвацца кіраўніком дзяржавы, а таксама агульным урадам». У Расіі ж, паводле яго словаў, «больш мяккі варыянт», які мае на мэце калектыўны орган кіравання і які будзе прымаць рашэнні ў плане тых паўнамоцтваў, якімі ў цяперашні час валодае Вышэйшы Савет, вядома, з перспектываю іх пашырэння».

«Гэты блок пытанняў застаўся неўрэгуляваным і бліжэйшым часам будзе дапрацаваны», — падкрэсліў прэзідэнт Беларусі. Адказваючы на пытанне аб тым, што рэгіянальныя палітыкі Расіі могуць запрасіць сабе яшчэ больш паўнамоцтваў у выпадку стварэння саюзнай дзяржавы, А.Лукашэнка сказаў: «Я перакананы, што пазіцыя Шаймiева, Аушава ў дачыненні Саюза Расіі і Беларусі застаецца ў меншасці. Непрымальнае гэтага Саюза яшчэ будзе з боку тых, хто сёння імкнецца стаць ці то прэзідэнтам, ці то ў Думу трапіць».

Падводзячы вынікі візіту ў Маскву, А.Лукашэнка сказаў, што падчас перамоў былі абмеркаваны чатыры блокі пытанняў: аб саюзнай дамове, аб Югаславіі і яе просьбе аднасна прыняцця ў Саюз Расіі і Беларусі, аб выкананні раней дасягнутых рашэнняў, а таксама адзінацаці рашэнняў Вышэйшага Савета Саюза, якія былі сёння падпісаны прэзідэнтамі дзвюх краін. На думку А. Лукашэнкі, былі «грунтоўна абмеркаваны» і блок эканамічных пытанняў. У першую чаргу, пытанні сумеснай вытворчасці розных відаў прадукцыі.

Гаворачы аб прэтэнзіях Беларусі да Расіі А.Лукашэнка сказаў: «Я хачу, каб расійскі бок, як і беларускі, дакладна выконваў падпісаныя раней пагадненні». Ён падкрэсліў, што прэзідэнт Расіі з гэтым пагадзіўся. Закраналася пытанне аб кампаніі «Слаўнафта». «Па ўсіх пытаннях абодва бакі знайшлі ўзаемаразуменне, я задаволены ходам абмеркавання эканамічных праблемаў», —сказаў кіраўнік беларускай дзяржавы.

**Максім Цітоў**

## Курсы валют

**На 3 траўня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.** Даляр ЗША — 245.000 беларускіх рублёў. Еўра — 259.614,25. Нямецкая марка — 132.738,66. Расійскі рубель — 10.140. Украінская грыўня — 62.429,93. Аўстрыйскі шылінг — 18.866,90. Брытанскі фунт стэрлінгаў — 394.927,75. Італьянская ліра (за 100 адзінак) — 13.407,96. Французскі франк — 39.577,94. Швейцарскі франк — 161.110,02. У параўнанні з пятніцай, 30 красавіка, афіцыйны курс даляра ўзрос на 1.000 рублёў.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 3 траўня даляр куплялі па 405.000—410.000 і прадавалі па 415.000—420.000 рублёў. У параўнанні ў пятніцай, курс узрос у сярэднім на 5.000 рублёў.

## Расія прызнала рубель

**29 красавіка Цэнтральны банк Расіі аднавіў афіцыйную каціроўку расійскага рубля ў адносінах да беларускага. Як паведамілі ў дэпартаменце знешніх і грамадскіх сувязяў Цэнтрабанка Расіі, гэта зроблена «ў мэтах пашырэння выкарыстання ў расійска-беларускіх эканамічных адносінах нацыянальных валют Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь».**

Афіцыйны курс расійскага рубля да беларускага (роўна як і да іншых валют) выкарыстоўваецца «для мэтаў уліку і мытных плацяжоў без абавязацельстваў Банка Расіі купляць ці прадаваць указаную валюту па гэтым курсе». На 29 красавіка афіцыйны курс склаў 77 рублёў 9 капеек за адзін мільён беларускіх рублёў, на 30 красавіка — 76 рублёў 84 капейкі за адзін мільён беларускіх рублёў.

У пераліку па крос-курсе адзін даляр, па версіі Цэнтрабанка, каштуе крыху больш за 315 тысяч беларускіх рублёў. Гэта адпавядае курсу даляра да беларускага рубля на знешніх рынках, якія знаходзяцца пад кантролем Нацыянальнага банка Беларусі (як вядома, на «чорным» унутраным рынку краіны курс амерыканскай валюты вагаецца зараз у межах 500 тысяч рублёў).

Нагадаем, што 24 сакавіка 1998 года Цэнтральны банк Расіі прыпыніў афіцыйную каціроўку расійскага рубля ў адносінах да беларускага ў сувязі з рашэннем Нацыянальнага банка Беларусі рэзка абмежаваць аперацыі нерэзідэнтаў з беларускімі рублямі ў спробе спыніць абвал нацыянальнай валюты. Дзеянні беларускага кіраўніцтва былі расцэнены тады Цэнтрабанкам Расіі як «беспрэцэдэнтны крок у сучаснай гісторыі», які меў «ярка выражаную антырасійскую накіраванасць».

**Дзмітрый Уласаў**

## Дзяржрдэп заклапочаны

**Дзяржрдэпартамент выказаў заклапочанасць у сувязі з нядаўнімі заявамі прэзідэнта А.Лукашэнкі аб памылковасці вываду ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі і, у сувязі з гэтым, магчымымі дзеяннямі па падрыве рэжыму нераспаўсюджвання ядзернай зброі. Аб гэтым заявіў каардынатар Хартыі'97 па міжнародных справах Андрэй Саннікаў на прэс-канферэнцыі па выніках свайго візіту ў ЗША.**

Паводле яго словаў, Дзяржрдэпартамент заклапочаны тым, што А.Лукашэнка можа паспрабаваць ажыццявіць гэтыя пагрозы альбо яны могуць быць выкарыстаны кіраўніцтвам Расіі. Сам А.Саннікаў не выключае тэарэтычнай магчымасці вяртання ў Беларусь расійскай тактычнай зброі з атамнымі боегалоўкамі. Аднак, на яго думку, гэта прывядзе да пагрозы адраджэння халоднай вайны, новаму штуршку гонкі ўзбраенняў і таму падобны варыянт з'яўляецца малаверагодным.

На сустрэчы ў Дзяржрдэпартаменце ЗША, а таксама з амбасадарам ЗША ў Беларусі Дэніэлам Спекхардам Андрэй Саннікаў выклаў аргументы аб мэтазгоднасці вяртання ў Менск амерыканскага амбасадара да 20 ліпеня 1999 года — афіцыйнага заканчэння тэрміну паўнамоцтваў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

**Генадзь Барбарыч**

## Спекхард вярнуўся

**Трэцяга траўня 1999 года Амбасадар ЗША Дэніэл Спекард вярнуўся ў Менск на адзін тыдзень, каб ацаніць існуючую палітычную сітуацыю ў Беларусі, давесці пункт гледжання ЗША да кіраўніцтва Беларусі і беларускага грамадства ў цэлым, а таксама даць новы імпульс перамовам па сітуацыі вакол Драздоў.**

Сёмага траўня Амбасадар прыме ўдзел у афіцыйнай цырымоніі адкрыцця новага будынка Інфармацыйнай Службы ды Інфармацыйнага Цэнтра ЗША.

**Ул. інф.**

## Еўрасаюз хоча дыялогу

**Пытанні забеспячэння палітычнай стабільнасці ў Беларусі абмяркоўваліся на сустрэчы лідараў беларускай апазіцыі з прадстаўнікамі Еўрапейскага Саюза, якая прайшла 28 красавіка ў Менску. З боку Еўрасаюза ў перамовах удзельнічалі прадстаўнік Аўстрыі — краіны, якая цяпер старшынствуе ў ЕС, Германіі — былога старшыні — і Фінляндыі, якая будзе старшынстваваць у гэтай арганізацыі пасля Аўстрыі. Беларускі бок прадстаўлялі старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі, Станіслаў Багданкевіч, Алена Скрыган, Лявон Баршчэўскі, Мікалай Статкевіч і Генадзь Быкаў.**

У гутарцы з карэспандэнтам С.Шарэцкі паведаміў, што перамовы вяліся на прадмет магчымасці правядзення дыялогу апазіцыі і цяперашніх улад Беларусі. Па яго словах, на перамовах з апазіцыяй, як і сустрэчы з прадстаўнікамі ўладаў, якая адбылася 27 красавіка члены дэлегацыі ЕС вызначылі некалькі ўмоваў, пры якіх магчыма аднаўленне супрацоўніцтва Беларусі з Еўрасаюзам.

Перш за ўсё, у рэспубліцы не павінна быць ніякага гвалту 16 траўня — у дзень выбараў прэзідэнта краіны, прызначаных Вярхоўным Саветам. Акрамя таго, павінны быць вырашаны пытанні, звязаныя з утрыманнем пад вартай так званых «палітычных вязняў», і прадастаўлена магчымасць для перарэгістрацыі партыям і грамадскім арганізацыям.

Паводле словаў С.Шарэцкага, прадстаўнікі апазіцыі са свайго боку паабяцалі, што правядуць выбары прэзідэнта 16 траўня ў поўнай адпаведнасці з законам. Што да Еўрасаюза, то, паколькі беларуская ўлады аб'явілі маючыя адбыцца выбары незаконнымі, афіцыйна прысылаць сваіх назіральнікаў ЕС не зможа.

«Еўропа выказвае неспакой, каб наша бяда не стала трагедыяй для Еўропы, як бяда югаслаўскіх албанцаў перарасла ў агульнаеўрапейскую трагедыю», — сказаў С.Шарэцкі. Адпаведна яго словам, апазіцыя сёння «гатова да любога дыялогу» з уладамі, але ён павінен быць канструктыўным. Акрамя таго, падкрэсліў спікер, прадстаўнікам апазіцыі павінна быць прадастаўлена магчымасць выступіць па тэлебачанні і радыё.

**Ірына Леўшына**

## Улада не супраць?

**Адна з першачарговых задач МЗС і беларускіх замежных устаноў — нармалізацыя адносінаў Беларусі з Еўрапейскім Саюзам. Аб гэтым, каментуючы вынікі нядаўніх перамоваў у Менску з беларускімі ўладамі прадстаўнікоў Еўрапейскага Саюза, паведаміў журналістам прэс-сакратар МЗС Беларусі Мікалай Барысевіч.**

Паводле яго словаў, падчас сустрэчаў прадстаўнікоў ЕС з міністрам замежных справаў, віцэ-прэм'ерам Уралам Латыпавым і кіраўніком адміністрацыі прэзідэнтам Міхаілам Мясніковічам былі абмеркаваны далейшыя крокі Беларусі і Еўрасаюза па нармалізацыі дыялогу, разам з палітычнымі кантактамі. Як падкрэсліў М.Барысевіч, перамовы «прайшлі ў абстаноўцы ўзаемаразумення» і сталі добрым пачаткам для далейшых кантактаў.

**Андрэй Асмалоўскі**

# Канстатацыя адсутнасці прысутнасці...
## (або падставы для дзейнасці)

**Некаторыя мае знаёмыя, да якіх я звяртаўся з прапановай далучыцца да справы ўтварэння партыі «Наша Будучыня», пагаджаючыся з пералікам абставін у нашым «Звароце» які быў надрукаваны ў пачатку года ў «Народнай Волі», усё ж адмовіліся ўвайсці ў аргкамітэт. Галоўныя прычыны, якімі яны тлумачылі сваю адмову, яны выказвалі ў выглядзе пытанняў. «А чаму мы (партыя «Наша Будучыня») здолеем з'яднаць грамадзян?» «А дзе мы «знойдзем» лідара з дастатковым рэйтынгам?» Напэўна, такія ж пытанні ўзніклі ў многіх з тых, хто азнаёміўся з нашым «Зваротам». Так, гэтыя пытанні маюць пад сабой падставы і, значыць, на іх трэба адказваць. Я паспрабую гэта зрабіць. І адразу задам сустрэчныя пытанні сваім апанентам.**

Дык што, і надалей будзем моўчкі слухаць адно і тое ж («заявления, требования, предупреждения»), назіраць, як пераліваюць з пустога ў парожняе («участвовать - не участвовать, объединяться - не объединяться»), як «цягаюцца за чубы» паважаныя вучоныя і дзівіцца з іх наіўнасці? Патрабуе Грыб, патрабуе Багданкевіч і г.д. «А Васька слушает да ест». Але ж гэта мы ўжо праходзілі. Узгадайце, колькі часу апазіцыя БНФ у ВС 12-га склікання патрабавала ад камуністычнай большасці ў ВС. Адправіць у адстаўку ўрад Кебіча. Ну і чым скончылася справа? А іх (апазіцыю) папярэджвалі: не губляйце час!

Цяпер пра лідара. Дык што, можа на Беларусі ўжо не засталося сапраўднага сына, годнай дачкі сваёй Радзімы? Калі гэта так, дык трэба моўчкі разам з «бацькам» ісці пад крыло «старэйшага брата».

Але ж мы перакананыя ў тым, што на Беларусі ёсць яшчэ шмат таленавітых, разумных і ў той жа час сумленных людзей, для якіх Беларусь - гэта Маці-краіна. І «знайсці» сярод іх лідара можна. Толькі, парушае, не трэба шукаць яго сярод гаспадароў (сённяшніх ці ўчарашніх) высокіх кабінетаў. Яго трэба выбіраць з людзей, якія ў гады засілля камуністычнай ідэалогіі (у сапраўднасці двайной маралі) не прыстасоўваліся да абставін дзеля кар'еры, якія здолелі захаваць у сабе імунітэт супраць усяго агіднага, брuднага, у каго мараль не раздвойвалася, хто не хлусіў сабе і свайму народу, а таму і не мог займаць высокіх пасадаў.

Па-другое, лідара трэба выбіраць з людзей, якія сучаснае жыццё ведаюць не па дакладах чыноўнікаў ад статыстыкі ці па газетных артыкулах, а з тых, хто непасрэдна сам на сабе адчувае яго подых.

Па-трэцяе, лідара трэба выбіраць з людзей, што добра ведаюць жыццё і ў горадзе, і ў вёсцы, якія ведаюць, чаго хочуць працоўныя і на што здатна наменклатура.

Карацей кажучы, «птенцы гнезда ЦК КПБ-КПСС» (першыя, другія, дзесятыя...) нам непатрэбныя. Сёння, як у Расіі, так і ў нас, народ «пажынае» плён іх дзейнасці.

Вось зараз і пагаворым пра гэты плён: пра нашу рэчаіснасць, наша жыццё.

Жывем так, як жывем, таму што:

**А: на Беларусі пры ўладзе яшчэ не было людзей адначасова і разумных, і сумленных, якія б ставіліся да Беларусі як да маці.**

Да чаго ж мы дажыліся!

Дыхаем атручаным паветрам, п'ем атручаную ваду. Практычна няма здаровых дзяцей. Маладыя маці кормяць сваіх немаўлят штучнымі сумесямі. Карацей і карцей становіцца працягласць жыцця. На дарогах, у быце ідзе сапраўдная вайна.

Крыжы, крыжы, крыжы.

Турмы, калоніі, ізалятары перапоўненыя. Толькі ў час вайны было столькі злодзеяў, рабаўнікоў, бандытаў. Народ співаецца. Пакінутыя бацькі, пакінутыя дзеці.

Спустошана Зямля!

Спустошаны душы людзей!

Што ж здарылася на нашай зямельцы? Можа, іншапланецяне столькі шкоды нарабілі? Хто ж так абяччалавечыў людзей? Хтоператварыў многіх у звычайнае быдла, якое, прабачце, паскудзіць людзям пад нос? Хто ператварыў шматлікіх хрысціян у істоты, у чыіх душах няма ніякага святога пачуцця ні да Бацькаўшчыны, ні да продкаў, ні да бацькоў, ні да сучаснікаў, ні да нашчадкаў?

Адказ толькі адзін - сістэма. Сістэма, якая пачалася з падману і крыві; сістэма, якая дзесяцігоддзі трымалася на хлусні, гвалце, крыві; сістэма, якая дзесяцігоддзямі спустошвала душы людзей, канчаткова разбэшчваючы адных (уладатрымальнікаў) і ператвараючы ў безгалосых рабоў другіх.

Тых жа, у каго душа не прымала, не мірылася з гэтай д'ябальскай сістэмай, фізічна знішчалі на Салаўках, на Калыме, у Курапатах, высылалі за мяжу, трымалі на непрыкметных пасадах, або перавыхоўвалі, «упраўляючы мазгі» ў псіхушках.

Зараз у прэзідэнцкай вертыкалі, ва ўрадзе, у так званых «нацыянальным сходзе» і «палаце прадстаўнікоў» не менш як 90% людзей, што выраслі, вылучыліся падчас панавання камуністычнай ідэалогіі. Займаць тады высокія пасады маглі людзі, якія жылі па двайной маралі, без пакут сумлення. Твар гэтых людзей добра відаць па прывілеях, якімі яны карысталіся раней, пры КПСС, і якія ўсталявалі для сябе зараз, па катэджах у «царскіх сёлах» і на «палях цудаў».

І маем мы тое, што маем. Краіна на задворках цывілізацыі, прагрэсу. Нічога, за нявелікім выключэннем, людскага зрабіць не можам. Нікому наш хлам не патрэбен. Хіба толькі Расіі. Самі ж хапаем усё замежнае. А там, за мяжой, хутка зарыентаваліся: дурным можна ўсё спіхнуць.

Ну, хіба не сведчыць пра бязглуздую ўладу тое,

што маючы неабмежаваныя запасы будаўнічых матэрыялаў (лес, жвір, гліна ды інш.) ніяк не вырашыцца жыллёвая праблема;

што маючы не менш як па 1 га ворнай зямлі на чалавека, прыдумалі для гараджан дачныя надзелы як выйсце з дэфіцыту гародніны, садавіны;

што зараз італьянскія фірмы вядуць рэканструкцыю галоўнай шашы краіны Брэст-Менск-Масква.

Пералік прыкладаў можна працягваць вельмі доўга.

А жыццёвы ўзровень нашых грамадзян? Пра што ён сведчыць?

Але спісваць усю рэчаіснасць нашага жыцця толькі на дурноту ўлады нельга.

**Б: Беларускі народ яшчэ не прачнуўся, яшчэ не развітаўся са страхам, яшчэ не адчуў сябе свабодным, яшчэ не захацеў «людзьмі звацца».**

А гэта грэх. Грэх чалавеку не быць Чалавекам. А таму, як гэта шмат гадоў таму сцвярджаў выдатны беларускі пісьменнік Ул.Караткевіч, Бог пакараў беларусаў, сказаўшы: «Я дам ім самае горшае ў свеце кіраўніцтва». І вось, выходзячы з усяго вышэй сказанага, зыходзячы з канстатацыі нашай рэчаіснасці, аргкамітэт будзе планаваць сваю дзейнасць.

А для таго, каб быць упэўненымі у поспеху сваёй дзейнасці, нам варта ўсвядоміць і пастаянна памятаць прычыны, з-за якіх беларуская дэмакраты так і не здабылі перамогі. Як ні дзіўна, але даводзіцца зноў канстатаваць, што даўно вядомае «страшно далеки они от народа» і сёння ёсць галоўная прычына. Дзіўна таму, што сталічныя лідары апазіцыі не могуць не ведаць пра гэтую аксіёму. Ды яшчэ і таму, што час ад часу ім і нагадвалі аб гэтым. Як, напрыклад, А.Канцэвіч у сваім артыкуле «Те же самые грабли» **(«Народная Воля» ад 19.05.98 года).** Вось што ён напісаў: «Демократический приход к власти - это выборы. А как же демократы могут придти к власти, если они далеки от народа? Когда-то народники ходили в народ и просвещали его, а теперь? Будем честны: та «высшая математика», которая исходила из Верховного Совета 12 созыва не доходила до массового сознания. И тогда, и теперь заумные «учёные» статьи в газетах непонимаемы большинством». І яшчэ: «А между тем убедить одного «простого человека» в необходимости демократических перемен были бы куда полезнее, чем провести многотысячный митинг среди «единоверцев».

Ці многа змянілася з таго часу? На маю думку, амаль нічога. Пагартайце сённяшнія незалежныя газеты. Галоўныя тэарэтыкі праграм, планаў апазіцый прапануюць усё тыя ж, занадта разумныя словазлучэнні накшталт «расщеплённый атом недовольства», «режим стагнации», «прививка легитимности», «политическая тусовка», «политический тяжеловес» і г.д. і г.д. Высвятляецца, што: «Мы долго и много говорили правильные слова и лозунги. Мы искренне жалели народ и страну. Но при этом думали о себе. О своей партии, о своей тусовке, о собственном отражении в зеркале истории. Пришло время подумать о Белоруссии» **(А.Лебедько: «Оппозиция: реальность и перспективы» - «БМ» N2, 1992 г.).**

Вось як! Толькі зараз збіраюцца думаць пра Беларусь.

І тое, што яны (лідары апазіцыі) «долго и много правильно...» і думалі, і гаварылі, ніяк не стасуецца з рэчаіснасцю. Каб гэта было так, і вынік быў бы іншым.

Калі добра паразважаць, дык можна прыйсці да высновы: лепшых вынікаў ад дзейнасці сённяшніх лідараў апазіцыі і быць не магло.

Па-першае, як заўважалася вышэй, яны «страшно далеки от народа». Мала таго, што яны ў прамым сэнсе «далеки от народа»: слаба ведаюць жыццё рабочых, сялян, іх турботы (усё зводзіцца да фіксацыі заробкаў, цэнаў), дык яшчэ раз'язджаюць па замежжы. Шукаюць там рэцэпты вырашэння нашых надзённых праблемаў. А гэта, пры адпаведнай ідэалагічнай апрацоўцы, успрымаецца вельмі негатыўна.

Па-другое, многія з іх былі ў камандзе Лукашэнкі. Гэта сведчыць, пра тое, што яны альбо не вельмі разбіраюцца ў людзях, у справах, за якія ўзяліся, альбо дзеля кар'еры здольныя, у залежнасці ад абставін, на чарговае «превращение».

Вось і сёння лідары БСДП (НГ), БСДГ заявілі аб падтрымцы М.Чыгіра ў якасці кандыдата ў прэзідэнты. У сувязі з гэтым нельга не нагадаць недалёкае мінулае. 20 снежня 1994 года на сесіі Вярхоўнага Савета С.Антончык выступіў з дакладам «Аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта». М.Чыгір, як пераканаўча вынікае з даклада, з'яўляўся адной з уплывовых фігур мафіёзных структураў таго часу. Адразу ж паўстае пытанне. Як іх (лідараў) разумець? А мабыць, правільней - як іх назваць? Ці яны, можа, нічога не ведаюць пра той даклад? А мо ў ім, прабачце, туфта? Тады гэта зноў жа не ўпрыгожвае апазіцыю. І ці можна з такімі хібамі разлічваць на давер, на падтрымку думаючага выбаршчыка?

Па-трэцяе, многія з іх нягодзільна спрагназаваць паводзіны Лукашэнкі, хаця, падкрэсліваю яшчэ раз, былі ў адной камандзе ці працавалі побач.

Той жа А.Лябедзька год таму пісаў: «Кто бы что ни говорил, но выборы главы белорусского государства, по-моему, состоятся в 1999 году. Это соответствует не только требованиям легитимной Конституции, но и отвечает интересам политика Лукашенко» **(А.Лебедько: «Бел. оппозиция: что день грядущий нам готовит» - «НВ» 3.02.1998 г.).**

Г.Карпенка таксама спрабаваў спрагназаваць. У красавіку 1998 года ён пісаў: «Для меня совершенно ясно, кому и зачем нужны сегодня выборы в парламент Белорусии, почему президент инициирует разговоры на эту тему. Нужны досрочные выборы прежде всего президенту и его окружению» **(«НВ» 23.04.98 г.).**

А ў студзені 1999 года А.Лябедзька ўжо піша: «Сценарий «президентские выборы 1999 года» явно не стыкуется с планами Александра Григорьевича» **(«БМ» N2 1999 г.).** І пра выбары ў парламент нічога не чуваць. Атрымліваецца, што Лукашэнка нашых лідараў «водзіць за нос», як малых дзяцей.

А ці можна, чакаючы прыходу гасцей, адпаведным чынам сустрэць «візіт» рабаўнікоў?

Вельмі яскравым, на маю думку, фактам адсутнасці здольнасці цвяроза ацэньваць стан рэчаў, здольнасці інтуітыўна прадбачыць будучыню з'яўляецца зварот трох былых старшыняў Вярхоўнага Савета Шушкевіча, Грыба, Шарэцкага да прэзідэнта Расіі. Я маю на ўвазе іх «Открытое письмо Его Превосходительству Президенту Российской Федерации Ельцину Б.Н.». Вось дзе сапраўды, «было бы смешно, если б не было так грустно». Хіба не становіцца сумна ад таго, што бачыш, як прафесары, генералы зноў лезуць на тыя ж самыя граблі. Гэта ж ужо было (Селязнёў, Чарнамырдзін). Знайшлі заступніка! Ды дзеля захавання сваёй улады ён (Ельцын) гатовы дамовіцца з самім д'яблам. Ну няўжо не чулі, шаноўныя, што заявіў, знаходзячыся пасля падпісання дамоўленасцяў, на эмацыянальным пад'ёме, Лукашэнка? Нагадваю. «А власть мы поделим». І хіба не ведаюць, паважаныя што І.Рыбкін ужо на пасаду прэзідэнта Саюза прапанаваў Ельцына. Ну, а на расійскі трон добра вядома, хто мецідзь. А потым (улічваючы стан здароўя Ельцына), і саюзны трон не за гарамі.

І ўвогуле, хіба ёсць у Расіі палітыкі, якія адмовяцца ад такога падарунка, як Беларусь?

Падсумаваўшы ўсе разважанні, усе факты становіцца зразумелым, чаму такія мізэрныя рэйтынгі маюць сёння лідары апазіцыі. нядаўна «Народная Воля» паведаміла вынікі сацыялагічнага апытання жыхароў Менска. На галоўнае пытанне часу: «Што, калі б выбары прэзідэнта былі сёння?..», адказы атрымаліся наступныя:

34% - не бачаць дастойных кандыдатаў;

25% - не змаглі адказаць (хутчэй за ўсё па той жа прычыне. - А.К.);

9% - не пойдуць на выбары (напэўна, няма з каго выбраць. - А.К.);

6% - супраць усіх (зноў няма дастойных. - А.К.);

15% - за Лукашэнку;

3% - за Пазьняка;

па 2% - за Чыгіра, Шушкевіча;

па 1% - за Багданкевіча, Ганчара.

І гэта ў Менску! Каментар, як кажуць, не патрэбен. Мне цяпер зразумела, чаму наш (аргкамітэта) заклік утварыць адзіную, моцную партыю «Наша Будучыня» сталічныя лідары апазіцыі не заўважылі, а некаторыя толькі і змаглі заявіць, што гэта правакацыя.

Мы ж (аргкамітэт па стварэнню партыі «Наша Будучыня») бачым, што не памыліліся са сваім «зваротам». Мы разумеем, што нас чакае праца цяжкая і доўгая. Але мы перакананы, што ні хлусня, ні спробы фальсіфікацый не дапамогуць Лукашэнку, калі пераважная большасць грамадзян свядома зробіць свой выбар не на яго карысць. А гэта стане магчымым тады, калі грамадзяне ўбачаць твар цяперашняй улады не на чале з Лукашэнкам без маскі, калі яны зразумеюць, што наша жыццё сёння з'яўляецца лагічным вынікам дзейнасці гэтай улады, калі грамадзяне захочуць жыць інакш, па-чалавечы. А гэта азначае, што мы (аргкамітэт) павінны сваю справу рабіць так, каб яны (грамадзяне) убачылі, зразумелі, захацелі і ўрэшце успрынялі як сваё:

Аргкамітэт па стварэнню партыі «Наша Будучыня» запрашае ўсіх менавіта да такой працы.

**Алесь Крэмень,**
**сябра аргкамітэта**

**P.S.:** Артыкул у асноўным быў падрыхтаваны яшчэ да Кангрэсу дэмакратычных сілаў Беларусі.

Аднак сітуацыя не змянілася і дагэтуль.

# У барацьбе за чыстае паветра перамагае «Волга»

**Асноўным забруджвальнікам паветра ўсіх вялікіх гарадоў Беларусі з'яўляецца аўтатранспарт. І сітуацыя па меры стварэння айчыннага аўтапарка пагаршаецца. Ужо сёння ў Менску выкіды ад аўтатранспарта складаюць больш за 75 працэнтаў усіх забруджванняў паветранага басейну рэгіёна. На Гарадзеншчыне, перанасычанай імпартнымі «second hand», сітуацыя яшчэ горш: гэты паказчык перавышае 80-85 працэнтаў.**

Айчынныя нарматывы па выкідах шкодных рэчываў прыводзяцца ГОСТ 17.2.2.03-87 «Ахова прыроды. Атмасфера. Нормы і метады вымярэнняў утрымання вокісу вугляроду і вуглевадародаў у адпрацаваных газах аўтамабіляў з бензінавымі рухавікамі» і ГОСТ 21393-75 «Аўтамабілі з дызелямі. Дымнасць адпрацаваных газаў». Калі параўнаць дапушчальныя нарматывы выкіды прадуктаў згарання аўтамабільнага паліва ў Беларусі з, напрыклад, федэральнымі нарматывамі ЗША, то розніца будзе ашаламляльнай. Аказваецца, у РБ дазваляецца выкідваць у атмасферу на адзін кіламетр прабегу аўтамабіля ў 14,5 раза больш, чым у ЗША аксіду вугляроду (угарнага газу); у 22,4 раза - вуглевадародаў і ў 2,8 раза - надзвычай шкоднага дыаксіду азоту. Але, тым не менш, нават такія лагодныя нормы стандартаў, што дзейнічаюць у РБ, часта намі не выконваюцца, а вокіслы азоту нават не нармуюцца.

Вынікі праведзеных у мінулым годзе аддзяленнем экалагічнага нагляду ДАІ УУС Гарадзенскага аблвыканкама праверак на СО і СН больш чым на 80 тысяч легкавых аўтамабіляў паказалі, што 3,6 працэнта праверанpark машын мелі перавышэнне існуючых нормаў па таксічнасці адпрацаваных газаў **(гл. табліцу).** Сярод іншамарак гэты паказчык у сярэднім не перавышаў 3,2 працэнта, айчынных аўтамабіляў - 4,2 працэнта. У апошніх лідыравалі «Волгі» - 17,5 працэнта праверaных ГАЗ-24 перавышалі норму.

**Табліца**

Дадзеныя па аўтамабілях, якія перавышаюць існуючыя ў РБ нормы на таксічнасць адпрацаваных газаў

| Мадэль | Удз. вага аўтам. якія перавышаюць норму | % аўтамаб., узрост якіх старэйшы за 10-гадовы |
|---|---|---|
| 1. ЗАЗ | 0,05 | 75 |
| 2. ГАЗ-24 | 17,5 | 86 |
| 3. ВАЗ | 5,6 | 47,5 |
| 4. Масквіч | 2,5 | 80 |
| 5. Audi | 5,5 | 68,5 |
| 6. Opel | 4,1 | 65 |
| 7. Ford | 2,7 | 62 |
| 8. Fiat | 2,5 | 42 |
| 9. Mazda | 2,4 | 45 |
| 10. VW | 1,9 | 65 |
| 11. Mercedes | 1,0 | 78 |

Тут трэба ўлічыць вось якую абставіну. Адпаведна дадзеным ДАІ, на ўліку ў Гродне і Гарадзенскім раёне знаходзіцца 724 аўтамабілі ГАЗ-24. Узрост 86-ці працэнтаў з іх (згодна з дадзенымі рэкламнай перыёдыкі) ужо перавысіў дзесяць гадоў. У мясцовых жыхароў апошнім часам гэты неэканамічны аўтамабіль (аб'ём рухавіка два літры, расход бензіну - да 15 літраў на 100 км) у асноўным стаіць на прыколе. Актыўна эксплуатуе «Волгі» толькі гарадзенскі таксапарк (мае 75 машын ГАЗ-24), прадастаўляючы «Волгі» ў арэнду сваім вадзіцелям. Вось гэтыя дабітыя на нашых дарогах аўтамабілі ў асноўным і правярае нагляд ДАІ, з гарантыяй папаўняючы казну штрафамі, памер якіх можа дасягнуць і трох «мінімалак»...

На прыкладзе «айчынных» аўтамабіляў заўважана: чым меншы аб'ём рухавіка і актанавая лічба выкарыстоўваемага бензіну, тым больш бяспечнымі з'яўляюцца адпрацаваныя газы аўтамабіля. Верагодна, таму ўсяго 0,05 працэнта(!) гарадзенскіх «Запарожцаў» (бензін АІ-76) і 2,5 працэнта «Масквічоў» маюць перавышэнне існуючай ў РБ нормы таксічнасці адпрацаваных газаў, у той час, як 5,6 працэнта прадукцыі ВАЗ (бензін АІ-93) у яе не ўкладваецца (цікава гэту лічбу параўнаць з 2,5 працэнта імпартнага аналагу «Жыгулёў» - аўтамабіля «Fiat»).

На дзіва высокі сярод гарадзенскіх парушальнікаў працэнт AUDI (5,5 працэнта!) і Opel (4,1 працэнта), якія раней у сваёй айчыне адпавядалі жорсткім нормам ЕЎРА-2. Верагодная тут прычына -прыстойны ўзрост гарадзенскіх іншамарак (65-70 працэнтаў з іх «старэйшыя» за 10-гадовых), жахлівы беларускі аўтасэрвіс, бензін і дарогі, а таксама выкарпаны матарэсурс не вельмі надзейных «Опеляў».

Астатнія маркі імпартных машын неяк прыстасаваліся да беларускіх непарадкаў і ў асноўным уклаліся ў няжорсткія нормы таксічнасці выкідаў. Сярод якасных Mercedes, якія маюць салідны матарэсурс, парушальнікаў у Гродне выяўлена менш як адзін працэнт, VW - 1,9 працэнта, Mazda - 2,4 працэнта, Fiat - 2,5 працэнта, але 2,7 працэнта ў Ford.

Прыведзеныя ў пачатку артыкула лічбы сведчаць пра неабходнасць прыняцця тэрміновых мераў па зніжэнню катастрафічнага забруджвання атмасферы і без таго пацярпелай ад Чарнобыля Беларусі. Было б пажадана, каб на першае месца было пастаўлена здароўе чалавека і, як вынік, прынятыя на ўсім свеце санітарныя нормы. Пры гэтым, на наш погляд, варта ўлічыць досвед ЗША і Еўропы, якія далёка нас апярэдзілі ў пытаннях экалогіі: спыніць выпуск ды імпарт этыліраваных бензінаў, абсталяваць усе аўтамабілі нейтралізатарамі выхлапных газаў, замяніць карбюратарныя сістэмы упырскваннем паліва з электронным карэкцыяй, значна павысіць якасць сэрвіснага абслугоўвання аўтамабіляў і кантроль таксічнасці выкіду, перайсці на міжнародную сістэму экалагічных стандартаў, зрабіць больш жорсткімі санкцыі да парушальнікаў-уладальнікаў аўтатранспарта ды іншае.

Мяркуючы па памеру пакета сакавіцкіх заканадаўчых ініцыятываў вертыкалі (дэкрэт аб страхаванні грамадзянскай адказнасці ўладальнікаў аўтатранспарта, указ аб экалагічным зборы за праезд па асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторыях, істотнае падвышэнне мытных ставак на ўвозімыя ў РБ новыя - да трох гадоў і старыя - да 10 гадоў аўтамабілі), казна пустая, і не за гарамі - істотнае павелічэнне штрафаў за перавышэнне нормаў таксічнасці выкідаў. Павелічэнне да такога памеру, што аўтаўладальнікам-прыватнікам і прадпрыемствам стане выгадней прадаць свой стары аўтамабіль на запчасткі, а ўзамен, напрыклад, набыць якасную прадукцыю Volvo, якая адпавядае патрабаванням Super Green Lorry.

А зараз аб «праверцы на дарогах» - некалькі словаў пра тое, што мы кантралюем. У працэсе эксплуатацыі аўтамабіля, як вядома, паступова зніжаецца яго эфектыўная магутнасць і павялічваецца ўдзельны расход паліва і змазкі за кошт зносу поршневых кольцаў, люстэрка цыліндра, росту шчылінаў у падшыпніках і г.д. Часта пагаршэнне параметраў выкідаў адбываецца з-за разрэгулявання сістэм рухавіка. Перш за ўсё гэта датычыць старых аўтамабіляў. Таму кантроль паказчыкаў таксічнасці газаў з'яўляецца вельмі важным комплексным выпрабаваннем не толькі рухавіка (газаразмеркавальнага механізму, запальвання), але і сумежных сістэм аўтамабіля.

Як лічыць намеснік расійскага Цэнтральнага аўтапалігона (г.Дзмітраў), спадар А.Семяніхін, практыкуемая рэгуліроўка карбюратара на халастым ходу рухавіка не толькі не забяспечвае выканання нармуемых паказчыкаў, але, як правіла, з'яўляецца шкодным мерапрыемствам, якое прыводзіць да няналаджанай работы розных сістэм аўтамабіля і непрадказальнаму пагаршэнню таксічнасці ў асноўным рэжыме работы рухавіка - у руху пад нагрузкай. Таму рэгуліроўку аўтамабіля на таксічнасць выкіду трэба праводзіць на нагрузачным стэндзе з аднachасовай карэктыроўкай работы асноўных сістэм і комплексным аналізам таго, што вылятае з выхлапной трубы ў момант пачатку руху, разгону, руху пад нагрузкай. Але, паўстае пытанне, у якой беларускай аўтагаспадарцы ёсць падобны стэнд? Што пасля гэтага казаць аб прыватніках...

І яшчэ адна заўвага. Шырока распаўсюджаныя газааналізатары з усяго «букету» выкіду фіксуюць толькі адзінаццаць параметры. Ды і тыя з вялікай хібнасцю. Высокую дакладнасць вымярэнняў забяспечваюць інфрачырвоныя газааналізатары, найбольш складаныя мадэлі якіх дазваляюць асобна выявіць усе найбольш небяспечныя кампаненты адпрацаваных газаў. Таму ўсё тое, што выявіла ў 1998 годзе гарадзенскае ДАІ - толькі верхавіна айсберга і шкоду, якая наносіцца жыхарам РБ некандыцыйнай аўтатэхнікай, немагчыма перааацаніць.

**Барыс Падольны,**
**Сяргей Канунікаў**




«... Вось сімвал твой, забыты краю родны!..»

# Ганчар вызначыў парадак абрання прэзідэнта

**Цэнтральная камісія па выбарах прэзідэнта, створаная Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, прыняла пастанову «Аб парадку галасавання на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».**

У дакуменце канстатуецца, што дзяржаўныя органы адмаўляюцца прадаставіць у распараджэнне камісій па выбарах прэзідэнта неабходныя памяшканні і абсталяванне. Улічваючы гэта, а таксама «зыходзячы з неабходнасці гарантавання канстытуцыйных правоў грамадзян на абранне прэзідэнта», Цэнтральная камісія пастанаўляе: «участковым камісіям па выбарах прэзідэнта ў перыяд да дня галасавання — 16 траўня — узгадніць з выбаршчыкамі, якія па ўважлівых прычынах не могуць прыбыць на ўчасткі для галасавання, магчымасць арганізацыі галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў у дзень выбараў». Пры наяўнасці просьбы выбаршчыкаў (у вуснай альбо пісьмовай форме), згодна з пастановай, камісіям неабходна забяспечыць арганізацыю галасавання па месцы знаходжання выбаршчыкаў у дзень выбараў у парадку, устаноўленым Законам «Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Выбаршчыкі, якія не маюць магчымасці ў дзень выбараў знаходзіцца па месцы свайго жыхарства, маюць права не раней, чым за 10 дзён да выбараў, рэалізаваць свае выбарчыя правы ў адпаведнасці з вышэйзгаданым законам. Дадзеная пастанова падпісана старшынёй Цэнтральнай камісіі Віктарам Ганчаром.

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар на прэс-канферэнцыі 30 красавіка назваў прынятую напярэдадні Цэнтральнай камісіяй пастанову аб парадку правядзення выбараў адпавядаючай закону і аптымальнай у цяперашняй палітычнай сітуацыі.

Ганчар адзначыў, што галасаванне немагчыма правесці ў стацыянарных умовах, з выкарыстаннем кабін для тайнага галасавання. Спроба стварыць хаця б некалькі стацыянарных выбарчых участкаў, паводле словаў В.Ганчара, нават не будзе прадпрымацца, паколькі можа справакаваць улады на сілавыя дзеянні. «Але з іншага боку, мы не можам без заяваў саміх выбаршчыкаў арганізаваць масавае галасаванне па месцы іх знаходжання», — сказаў Віктар Ганчар.

Улічваючы гэта, у пастанове прапанаваны, на думку старшыні Цэнтркама, бездакорны з прававога пункту погляду варыянт: участковым камісіям рэкамендавана высветліць у выбаршчыкаў — ці згодны яны ў цяперашніх умовах прагаласаваць па месцы свайго знаходжання, паколькі ўлада пазбавіла іх права прагаласаваць на выбарчым участку. Масавае галасаванне грамадзян па месцы іх знаходжання адбудзецца толькі ў выпадку іх папярэдняй пісьмовай альбо вуснай згоды.

Паколькі законам падобнае галасаванне дапускаецца толькі ў дзень выбараў, а за 10 дзён галасаванне адбываецца толькі ў выбарчых участках, то ў другім пункце пастановы прадугледжана: калі грамадзянін у сілу абставінаў не можа рэалізаваць сваё выбарчае права, ён ажыццяўляе яго ў парадку, прадугледжаным пастановай, гэта значыць, па месцы свайго знаходжання. Такім чынам, паведаміў В.Ганчар, ужо бліжэйшымі днямі пачнецца апытанне грамадзян аб згодзе прагаласаваць па месцы іх знаходжання.

У выпадку атрымання згоды з 6 траўня пачнецца абыход кватэр членамі ўчастковых выбарчых камісій. У групу павінна ўваходзіць па адным прадстаўніку ад кожнага кандыдата. У выбарах возьмуць удзел больш за 14 тысяч членаў участковых камісій. Як адзначыў В.Ганчар, зараз усё залежыць ад саміх грамадзян ды іх жадання змяніць сітуацыю ў краіне —што тычыцца ўчастковых камісій, яны арганізацыйна, тэхнічна і фінансава падрыхтаваны для галасавання.

Віктар Ганчар адхіліў крытыку кандыдата ў прэзідэнты Зянона Пазьняка, які лічыць, што тэрміны падрыхтоўкі да выбараў парушаны, а галасаванне павінна праводзіцца ў адзін дзень —16 траўня. Паводле сцвярджэння старшыні Цэнтркама, камісія пастаянна працавала, каардынуючы свае дзеянні з абласнымі і Менскай гарадской камісіямі. А тое, што тэхналогія правядзення выбараў не была абнародавана да апошняга моманту, звязана з тым, што гэта дало б дадатковыя козыры «далёка не ўмоўнаму палітычнаму апаненту — цяперашняй беларускай уладзе». Патрабаванне З.Пазьняка аб правядзенні галасавання толькі 16 траўня ў спецыяльна ўсталяваных для гэтага месцах В.Ганчар назваў «адарванымі ад рэчаіснасці», «пагражаючымі зрывам выбараў», «і выклікаными палітычнымі інтарэсамі кандыдата».

У выпадку, калі кіраўнік БНФ здыме сваю кандыдатуру, галасаванне па кандыдатуры Міхаіла Чыгіра ўсё роўна адбудзецца.

Віктар Ганчар не выключыў, што абраны ў ходзе выбараў 16 траўня кіраўнік Беларусі можа быць не прызнаны міжнароднай супольнасцю ў якасці законнага кіраўніка краіны. Прынамсі, аб гэтым можна меркаваць зыходзячы з апошніх публічных выказванняў асобных афіцыйных прадстаўнікоў замежных дзяржаваў. Адначасова, ні ў якога не выклікае сумненняў законнасць і легітымнасць гэтых выбараў, абвешчаных Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання, і бездакорнасць канстытуцыйнай і прававой асновы іх правядзення, падкрэсліў Віктар Ганчар. Старшыня Цэнтркама выказаў упэўненасць, што пры пазітыўным зыходзе абвешчанай Вярхоўным Саветам выбарчай кампаніі —гэта азначае, калі выбары будуць прызнаны адбыўшыміся з юрыдычнага пункту погляду, — яна стане «яскравым сведчаннем нелегітымнасці цяперашняга рэжыму».

Як заявіў Віктар Ганчар, любыя пазітыўныя вынікі гэтых выбараў паслужаць «магутным палітычным і прававым трамплінам» для правядзення рэальных паўторных выбараў, пасля заканчэння канстытуцыйных паўнамоцтваў А.Лукашэнкі.

**Генадзь Барбарыч,**
**Наталля Кулагіна**

# Кіруе сацыялістычная правасвядомасць

**Нядаўна ў судзе Астравецкага раёна адбылося разбіральніцтва па скарзе грамадзяніна М.Уласевіча на дзеянні раённай інспекцыі па прыродных рэсурсах і экалогіі, якая выпісала спагнаць з яго адміністратыўны штраф. З той прычыны, што спадар Уласевіч спілаваў на сваім прыватным зямельным участку пашкоджанае дрэва, якое замінала і расло пад лініяй радыё- і электраперадач.**

У судзе, як патлумачыў М.Уласевіч, дзеянні службовых асобаў дзяржаўнага органа ён расцэньвае, як парушэнне яго законных правоў і інтарэсаў. Прычым, гэтых парушэнняў зроблена адразу некалькі. Па-першае, парушана заканадаўства аб зямлі і, у прыватнасці, у частцы яго, дзе размова ідзе аб правах землеўладальнікаў. А там, дарэчы, сказана, што кожны землеўладальнік мае права самастойна гаспадарыць на сваёй зямлі, і ўмяшанне ў дзейнасць землеўладальнікаў з боку дзяржавы ды яе органаў забараняецца. Акрамя таго, у заканадаўстве замацавана права на ўласнасць пасеваў і насаджэнняў на зямлі, якая належыць землеўладальніку.

Але, як лічыць сп. М.Уласевіч, сапраўдная прычына гэтага вельмі «прынцыповага» падыходу да яго з'яўляецца ягонае апазіцыйнае стаўленне да сённяшняй улады. Зусім нядаўна М.Уласевіч быў адзіным на ўвесь раён незалежным кандыдатам у дэпутаты Астравецкага райсавета. Аднак мясцовыя ўлады зрабілі ўсё, каб ён туды не патрапіў.

Суддзя Астравецкага суда Г.Янкоўскі з доказамі М.Уласевіча не пагадзіўся і пакінуў адміністратыўнае спагнанне ў сіле. Напэўна, суддзю больш пераканалі словы адказчыка па справе кіраўніка раённай інспекцыі М.Шагуна, які напрыканцы пасяджэння суда заявіў літаральна наступнае: пры прыняцці рашэння аб адміністратыўным спагнанні ён кіраваўся «своими внутренними убеждениями» і «социалистическим правосознанием».

Такім чынам, калі закон трактуецца людзьмі з унутранымі перакананнямі, сфармаванымі на сацыялістычнай правасвядомасці, то святая святых для ўсіх цывілізаваната свету - прыватная ўласнасць - для іх нічога не значыць.

**Іван Крук,**
**г.п. Астравец**



# дэкада

травень 1999

**Літаратурна - мастацкі выпуск**



# Мідзьені (1911-1938)

**Лёс клясыка альбанскай літаратуры Мідзьені (псэўданім Мілаша Дзьердзя Ніколы) дзіўным чынам нагадвае лёс нашага Максіма Багдановіча. Мяркуйце самі: калі хлопчыку Мілашу не было й пяці гадоў, у яго памерла маці, пры жыцьці паэт выдаў толькі адзін паэтычны зборнік і памёр на чужыне, ва ўзросьце дваццаці шасьці гадоў, паехаўшы туды лекавацца ад сухотаў.**

**І ўсё ж такі Мідзьені, як творцу, пашанцавала. Пасля захопу ўлады ў Альбаніі камуністамі, ягонае імя, у адрозненьне ад імёнаў іншых літаратараў міжваеннай пары, не было выкінутае зь літаратуры. Больш таго, у 1956 годзе камуністычныя ўлады парупіліся перанесьці паэтавы парэштці на Радзіму, Мідзьені (пэдагогу па адукацыі) была пасьмяротна нададзена годнасьць Народнага настаўніка, а галоўная літаратурная прэмія краіны стала насіць ягонае імя. Зрэшты, дзівіцца такому стаўленьню камуністаў да вольналюбівага, выхаванага на творах Шапэнгаўэра і Ніцшэ паэта, не даводзіцца, калі ўлічыць, што ніцшэанскія матывы не былі ім чужыя.**

**Пісаў Мідзьені ня толькі вершы, але й прозу - пераважна сатырычныя навэлы, адну зь якіх мы й прапануем чытачам.**



Вінцэсь Мудроў

## Урокі італьянскай

Ператрэсеныя ветрам хмары ляцелі нізка над зямлёй, чапляючыся сваімі размытымі краямі за сьпічакі кіпарысаў, стрэлы партовых кранаў і высокія трубы «Citta di Catania» - італьянскага параплаву, які стаяў ля пірсу, рыхтуючыся выйсьці ў мора.

На вымытай сьнежаньскімі залевамі палубе было галасна і тлумна: плячыстыя горцы ў зьбітых набакір фесках, падхорцістыя каміваяжоры -усе спрэс з фацэтна закручанымі вусамі, манашкі-кармэліткі ў мокрых апранахах, колькі падпітых бэрсальераў у парадных шаломах -усе яны бязладна мітусіліся і крычалі штосьці сваім бацькам, сябрам, жонкам, якія прыйшлі іх праводзіць.

Плячыстыя горцы выпраўляліся ў курбэт*, каміваяжоры - у Брындызі ды Вэнэцыю, кармэліткі - у Вечны Горад, бэрсальеры, удосыць напільтаўшыся абісынскага пылу, вярталіся да сваіх сем'яў, і альбанскі порт Дурэс скаланаўся ад крыку і плачу.

Зрэшты, крычалі ня ўсе... Кармэліткі сталі моўчкі, маўчаў і адзін з бэрсальераў - чарнабровы капрал, хаця зь берагу - відавочна яму -раз-пораз ляцеў дзявочы воклік:

- Dummi qualche cosa, su!**

Маўчаў таксама белатвары, інтэлігентнага выгляду альбанец. Ён стаяў поруч з капралам і яму таксама крычалі зь берагу, але ўжо на тутэйшай мове - каб ён глытаў пігулку, а прыехаўшы ў Турын, адразу ж адпісаў ліст.

... 22 сьнежня 1937 году Мілаш Дзьердзь Нікола - настаўнік ад'яжджаў у Італію - паступаць на гісторыка-філялягічны факультэт Турынскага ўнівэрсытэту. Дакладней кажучы, ён ехаў лекавацца: спакрэвічы здабылі яму мейсца ў «Сан-Луіджы» - санаторыі для сухотнікаў, які знаходзіўся ў ваколіцах гэтага самага Турыну. Але Мілаш пераканаў сяброў і, найперш, сябе самога, што ён здаровы і, калі патрапіць у санаторый, дык толькі дзеля таго, каб у цішыні і адзіноце заняцца італьянскай мовай.

Ад самага ранку пад сэрцам ягоным пасяліўся трапяткі халадок -прадчуваньне далёкай дарогі. На душы не было ні суму, ні трывогі: адно гэтае нясуцямна-трапяткое прадчуваньне і выпетралася яно толькі там, на хісткім трапе, калі ён азірнуўся і ўбачыў свайго сябра Ёрдана Місью, зь якім некалі вучыўся ў настаўніцкай сэмінарыі, выдаваў часопіс, і зь якім да сіпаты спрачаўся аб навачаснай літаратуры.

Ёрдан стаяў на кнэхце, сябруковая галава лунала над натоўпам, і Мілашу ў той міг здалося, што сябар плача. Ён спыніўся, падумаўшы - ці не падацца назад, але, атрымаўшы штурхеля ў сьпіну, няпэўным крокам рушыў па мастках. Паэт разумеў, што гэты бераг, гэтыя цёмныя, пакарабачаныя ветрам кіпарысы, спусьцістыя дурэскія дахі, сябра Ёрдана і сваю няшчасную Радзіму ён бачыць апошнім разам. Ад такой думкі балюча сьцялася душа, стала цяжка дыхаць, і Мілаш, прыхапіўшы з кішэні насоўку, хваравіта закашляўся.

На палюбе ён прабіўся бліжэй да кармы, дзе было менш народу, і пашнарыў вачыма па натоўпу. На тым мейсцы, дзе толькі што стаяў Ёрдан, цяпер атабарыўся нейкі вусач у чорнай гуне***, які, склаўшы рупарам далоні, клікаў нейкага Ахмэта.

Агледзеўшы натоўп, паэт зірнуў угору - на рухавыя, дарэшты выплаканыя хмары і з сумам падумаў, што ў родным Шкодэры дождж, відаць, яшчэ ідзе і ў душы пашкадаваў бяздомных шкодэрскіх жабракоў, якім нясоладка жывецца такою парой.

Хтосьці з «макароньнікаў» шпурнуў за борт недапітую пляшку «К'янці», палюба зь невядомай прычыны нахілілася, і Мілаш мімавольна схапіўся за рукаво шыняля італьянскага капрала. Альбанец на тое не зьвярнуў бы ўвагі, а «макароньнік» зь нейкім дзіўным імпэтам адхінуўся ўбок і штосьці няўцямна прамармытаў. Можна было падумаць, што капрал грэбаваў альбанцамі, нават выпадковы дотык лічыў за абразу. Мілаш так і падумаў, але, зірнуўшы на бэрсальера, адрыну ўтакія думкі: правая, прыкрытая накідкаю рука ваякі вісела на тальмаху.

Параненая рука й да чарноцьця загарэлы твар сьведчылі пра тое, што капрал ехаў з Альбаніі і, па дарозе дахаты, завітаў у Дураца**** - адведаць сяброўку, якая цяпер плакала на пірсе.

Вочы італьянца неўзабаве блiснулі, на вуснах адбілася роблёная ўсьмешка і ён, глянуўшы на Мілаша, запытальна таргануў галавою.

- Вучыцца еду... ва ўнівэрсытэт, - прамовіў Мілаш па-альбанску і, схамянуўшыся, дадаў:

- Universita... Torino...

Капрал пасьміхнуўся, цяпер ужо зусім натуральна, прамовіў нешта па-свойму і, уздыхнуўшы, налёг жыватом на поручні.

«Першыя тры месяцы - вучу італьянскую. Потым два месяцы - чытаю клясыку. Петрарку, Бакача, Дантэ...» - падумаўшы так, Мілаш зьмежыў павекі і ў сьвядомасьці дарэшты выяўна прагучалі тыя першыя словы, якімі сустрэне яго італьянскі бераг.

- Che hai nella valigia?*****

І што ён адкажа? Sapone, camice...****** майка... Як гэта будзе па-італьянску? Хвіліну Мілаш згадваў гэтае слова, цёр даланёй па лобе і, не згадаўшы, адсунуў валізу, што стаяла між ног, далей да борту.

З кніг ён узяў з сабой толькі два слоўнікі ды, вядома, свой зборнік вершаў, які летась павінен быў убачыць сьвет і наклад якога, ужо аддрукаваны, быў зьнішчаны каралеўскай цэнзурай. Захавалася ўсяго некалькі асобнікаў, якія скраў з друкарні адзін знаёмы хлопец. Даведаўшыся пра тое, Мілаш напачатку засмуціўся, але потым, падумаўшы, махнуў на ўсё рукой. І сапраўды: каму патрэбныя вершы ў гэтай богам забытай краіне?

Цяжка, з натугаю заскрыгатаў катвікны ланцуг, палюба ізноўку хітнулася й гамэрню людзкую пакрыў пранізьлівы дзявочы воклік:

- Amor mio, dimenticarmi!*******

На палюбе закрычалі, заплакалі, штосьці гучна выбухнула ля борта, і бераг пачаў аддаляцца. «У жніўні прыеду», - хацеў крыкнуць Мілаш, але не пасьпеў: навакольле здрыганулася ад нізкага сіплага гуду. «Citta di Catania» гула як апантаная - пракрягла, ачмурэла, а калі, нарэшце, сунялася, рэха гэтага гуду адбілася ад навакольных гор і доўга цьвеліла слых, аж пакуль не зьлілося з пошумам нястрымных хваляў і лямантам сварлівых кагарак.

Мілаш Дзьердзь Нікола памёр праз 8 месяцаў, у жніўні наступнага, 1938 году. За ягонай трунай ішло некалькі альбанцаў, што прыехалі на пахавіны, ды два сухотнікі, якія ляжалі зь Мілашам у адной палаце: лекары бальніцы ў Торэ-Пелічы дазволілі ім прайсьціся да могілак і падыхаць ласкавым, настоеным на паху прывялых магноляў, паветрам.

Ёрдан Місья перажыў свайго сябра амаль на чатыры гады: ён загінуў у чэрвені 1942 году ў Шкодэры, пад час перастрэлкі з італьянскімі карабінэрамі.

* Выезд за мяжу на заробкі.

** - Скажы мне што-небудзь! (італ.)

*** Шырокая і доўгая адзежына альбанскіх пастухоў.

**** Італьянская назва Дурэсу.

***** - Што ў валізе? (італ.)

****** Мыла, кашуля... (італ.)

******* - Каханы мой, не забывай мяне! (італ.)

## У храме

Сядзіць на лаве й раскашуе ад прахалоды. Уф... як гэта добра - сядзець, раскашаваць, ведаючы, што на бліжэйшыя два дні ты забясьпечаны хлебам надзённым. Шэсьць лекаў! Не, не два, а нават тры дні можна жыць на такія грошы. Адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць лекаў... Дзынь, дзынь, дзынь, дзынь... Брат - манах, які стаіць за брамамі алтара, чуе звон манет і ўсхвалявана азіраецца. Манах выторквае галаву з-за статуі сьвятога, але нічога такога ня бачыць. У храме пуста, калі не лічыць жабрака, што сядзіць на задняй лаўцы і, склаўшы далоні, моліцца Богу.

Разгубіўшыся, жабрак казеліць вочы на манаскую галаву. Пужаецца! Гатовы даць веры, што зараз надарыцца нейкі цуд. Але ж не! Перад ім адно манаская галава і болей ніякага цуду. І калі галава, нарэшце, зьнікне, жабрак ізноўку лашчыць свае шэсьць лекаў, радуючыся ім болей, чым здраднік Іскарыёт трыццацём сарэбранікам, за якія той прадаў свайго Настаўніка. І, апанаваны лятункамі, жабрак засынае на задняй лаўцы ціхім сном бестурботнага чалавека.

Ёсьць у нашым горадзе адзін квартал... А ў тым квартале - храм. А ля храма - жабрак, які апанаваны адным жаданьнем: жыць.

«Прыходзьце да Мяне ўсе стружданыя і пакрыўджаныя, - сказаў некалі Валадар гэтага храма, - і Я супакою вас...»

Жабрак і прыйшоў. І папраўдзе знайшоў тут спачынак. Касьцельная прахалада агарнула ягонае змучанае, апаленае сонцам цела.

А на двары сьпёка. Сонца такое гарачае і так шалёна пячэ, што біцьцё крыві ў скронях падаецца біцьцём кавальскага молата аб кавадла.

Зазнаў, аднак, пакут, небарака, пакуль дабраўся да храма! Як назло, з-за спёкі ён ня мог хутка бегчы. А таму ледзь было не папўся. Аднак сьпёка яго і ўратавала. Паліцыянт, які за ім пабег, быў на дзіва тлусты, і ад гарачыні гатовы быў расплавіцца, што той тлушч на патэльні, таму неўзабаве і кінуў гнацца.

«Каб табе духі выгнала з-за тых грошай! Каб цябе чэрці папісалі!» -падумаў той хвіляй паліцыянт. Паліцэйскі лічыў, што гэта жабрак сьцягнуў тыя пяцьшэсьць лекаў, - а спыніўшыся, вырашыў, што той іх зусім і ня браў.

Ну, а жабрак і не зьбіраўся абвяргаць такія думкі. Ды яно й зразумела: яму, сумленнаму чалавеку, аніяк не выпадала сесьці на лаву падсудных. І ён, вядома, меў рацыю. Ці ж не такім чынам дзеюць шаноўныя прадпрымальнікі ў нашым горадзе? І ці можа хто ўсумніцца ў іхнай прыстойнасьці? Сядзець за кратамі і быць пры гэтым невінаватым - ганьба ў вачох усіх добрых людзей!

І вось жабрак у храме.

Цішу касьцельную тым часам парушаюць гулкія й няўцямныя зыкі... Капялюшыкі чырвоныя й чорныя, сукні белыя і блакітныя, панчохі звычайныя і ядвабныя, твары вусатыя і бязвусыя, сьмяшлівыя й сур'ёзныя - гэта вернікі прыйшлі паслухаць пасьляабедзеную казань. І вось ужо ўсе лавы занятыя, а на апошняй лаве сядзіць жабрак.

«Праўду, праўду кажу вам», - грыміць з катэдры голас падрэ, абрыньваючы на грэшныя галовы перуны і маланкі. Вернікі ж слухаюць сьвятара надта ўважліва. Старыя нават ірты паразяўлялі. Нейкая цётухна шчасна пасьміхаецца. Дзьве маладухі, тыцкаючы адна другую локцямі, спрачаюцца: учора ці сёньня галіўся падрэ? А маленькая дзяўчынка зачаравана глядзіць на вясёлкавыя промні, што прабіваюцца скрозь вітражы...

А казань між тым ліецца як мае быць. У наступнае імгненьне падрэ пачынае выкрываць злодзеяў, кранаючы пры гэтым патаемныя струны жабрачай душы. Жабрак падымаецца, ідзе да выхаду і ў дзьвярах, паслаўшы на адрас прамоўцы пару мацюгоў, дадае:

- А жыць як? Гэтага ты не сказаў. Мне ж таксама жыць хочацца!

**Пераклаў Вінцэсь Мудроў**

Віктар Шніп

## Цішыня

Можа гэта апошнія дні?
Можа гэта апошнія сны?
І мы вернемся, нібы з вайны,
Зь невядомай, як сьмерць,
цішыні.

І мы вернемся, знаючы скон,
Праляцім, як вятры ля вакон
І ўпадзём ад праклятай тугі
На зямлю, як лісьцё, як сьнягі...

Можа гэта апошнія дні,
І мы зьнікнем, бы ў цемры агні?
Можа гэта даўно нас няма?
...Цішыня, як бяз вокан турма.

XXX

Гэты горад, як мёртвае мора,
Над якім замест мэваў - вароны,
Што гарланяць пра Тое Учора,
Як пра востраў анёльскі зялёны.

І чужы, адзінокі, стамлёны
Я зьнікаю, як зьнікла Учора,
І мне ў вочы ўлятаюць вароны...
Гэты горад, як мёртвае мора.

XXX

Няпэўнае жыццё, як сьмерці пацалунак,
Як сон, зь якога не ўцячы, бо гэта сон.
І ноч, як прорва, у якой ёсьць паратунак
Ад шэрых, быццам пыл, і ад самотных дзён.

Няпэўнае жыццё, як дым па-над палямі,
Дзе мы былі, дзе нас няма, як не было,
І быццам бы сябе прыдумалі мы самі,
Каб існаваць, як існуе ў начы сьвятло.

Няпэўнае жыццё, нібыта пакараньне,
Нібыта Божы суд, якога не мінуць,
Пасьля якога - толькі сьмерць, не існаваньне...
І людзі ў Храмах плачуць, плачуць і пяюць.



## Музыка смерці

...Можа ў музыцы гэтае жаху няма,
І мы плачам ад страху над ёю дарма?..
Дык чаго тады плачам і ўдалеч глядзім
І ў яе, што ў агонь, матылямі ляцім,

І мы ў травах высокіх зьнікаем, як пыл?..
Гэта музыка наша - ад нашых магіл,
Да якіх мы ідзём праз самоты сьвятло
Паміж тым, што шчэ будзе, і тым, што было.

І на гэтай дарозе, што вядзе да крыжоў,
Мы злуемся, крыўдуем, губляем сяброў
І ня помнім пра тое, што наша жыцьцё,
Як над вогнішчам дым, як на дрэвах лісьцё...

Мо пад музыку гэту наш скончыцца сон
І сплыве ў небыцьцё, як туман, з-пад вакон?

## Юры Гумянюк

### Гронка акацыі

Зь неспакоем гляджу я на гронку акацыі:
можа трэба ізноў пасыпаць раны сольлю?
Як жахліва трываць часы акупацыі,
забівацца ад суму ў гнятлівай няволі.

Палітычных маньякаў забавы вар'яцкія
ціск у жылах грамадзтва настолькі павысілі,
што прамовы ня спыняць яго заліхвацкія,
ані бляск малады прэзідэнцкае лысіны.

Думкі рояцца ў келіху зманлівай вадкасьці,
ім кактэйль летаргічны звужае прастору.
Варта вырвацца з клюшняў саўковай
нахабнасьці,
уцячы стрымгалоў па крывавых разорах

і прытулак знайсьці на аддаленай станцыі...
Зрэшты й там лукашыстыя, пэўна,
прымрояцца.
Зноўку гляну тады я на гронку акацыі -
далікатныя нэрвы няхай супакояцца.

### Апошняя дэкада

Міне апошняя дэкада,
як гістарычнае здарэньне,
ля тэатральнай балюстрады
пакіне продкам гурмы ценяў.

Алегарычная цагліна
тэхнакратычнага стагодзьдзя
застыгне жоўтай субмарынай
у паэтычным агародзе.



І можа нехта расшыфруе
ланцуг загадкавых акордаў,
у сініх зрэнках узгадуе
іртутны бляск мізэрыкордый.

### Натхненьне

Кожны творца пачынаецца з натхненьня.
А яно віруе ў маладосьці.
Атрымаеш зь неба блаславеньне
ды змайструеш самастойна штосьці.

Карабель ці прыгажуню-ляльку,
для яе квяцісты гарнітурчык,
і пачнеш вясёла фэстываліць,
як непаўналетні авантурнік.

А інакш, напэўна, немагчыма
ў нашай апаганенай вар'ятні,
дзе замест гаворкі - пантаміма
ды настрой далёка не выдатны.

Тут пануе хамства і распуста,
старшыня саўгасу гаспадарыць,
насаджае норавы і густы,
пра пасад крамлёўскі стала марыць.

Вось чаму так хочацца напіцца
і зямлю апырскаць угнаеньнем,
разгуляцца ці развесяліцца,
каб ня страціць кайфу ад натхненьня.

### Самаахвярнасьць

Твой твар, залеплены шэраньню,
я, стомлены, расцалую.
Высілкі мяйсцовага генія
напоўняць глебу пустую.

Цябе на стале між сурвэткамі
спасьцігну за колькі хвілінаў,
аздоблю шыкоўнымі кветкамі,
шалёны ад шчасьця - загіну.

Хай самаахвярнасьць залічыцца,
як вынік суіснаваньня,
а крокі на прывідных лесьвіцах
застыгнуць сымболем каханьня.

### Сон у тэатральных крэслах

Лагодна-незаўважна дзень мінае,
як сон буржуя ў тэатральных крэслах,
калі на сцэне распранаецца Сьвятая,
шукаючы сабе між дэкарацый месца.

Аднак храпіць мужык у гарнітуры,
каўтнуўшы з півам вірус летаргіі,
нат не скране яго Сьвятой каляратура
ці штучкі-дручкі псыхатэрапіі.

Ён сам сабе актор, глядач і крытык,
нашпігаваны ведамі з маленства.
О, не чапай яго! Нячулы дотык
здранцьвеньне ператворыць у шаленства.

Вакол яго анёлкі злудным колам
лунаюць ў танцы, песенькі сьпяваюць
і твар яму смаруюць салідолам,
нібы даводзяць, што заўжды кахаюць.

Буржуй ня верыць гэткаму каханьню:
няўжо яно грашовай вартасьці ня мае?
Няхай Сьвятая на падмостках ракам стане
ды пераконвае прысутных, што кахае.

Міне прэм'ера. Зала апусьцее.
І данясе гульліва з-за кулісаў
струмень паветра нерэальнай дзеі
гарбатны водар з прысмакам мялісы.

### Чаканьне

Нас ніхто не вінаваціў
(вінаватых больш няма).
Перапоўнена турма.
Скразьнякі ў бацькоўскай хаце.

Мулкіх нараў рып глухі
працінае сны мінорна,
і раз'ятраныя жорны
мелюць памяці шматкі.

Так пазначана ў пісьмёнах
старадаўняе пары.
А пакуль што ліхтары
шлюць карпускулаў мільёны
цераз краты і муры.

### Genius loci*

Кармі фізгармонію з пальцаў,
мэлёдыяй залу баюкай,
каб сонныя нэандартальцы
адчулі чароўныя гукі.

Каб водгульле гучных авацый
маркоту ўвабрала няўлоўна,
а келіх на срэбнае тацы
задзінькаў шчасьлівай падковай.

І ў плязме юпітэраў зерне
каханьня нязьведамай моцы
скаштуеш і не зразумееш,
што ты - гэта genius loci.

* Геній месца (лац.)

## Ігар Сідарук

# Калі ў жылах маіх узбунтуецца кроў

Я глядзеў, неадрыўна глядзеў, як дагарае мой адзінокі маленькі дамок, мой апошні жыцьцёвы прыстанак.

За 365 дзён да гэтага, роўна год таму... Але не. Яшчэ за два гады раней згарэў наш дом першы. Згарэў з-за таго, што ноччу ў прычыненую фортку на кухні нехта шпурнуў звычайны цыгарэтны недапалак. Можа, гэтак бавілася якое п'янотнае тупое стварэньне. А можа, камусьці дужа не падабалася, як мы жывем.

Мы не хадзілі на розныя агітацыйныя сходы-галашэньні. Мы ніколі ня перліся на ўчасткі, каб засьведчыць там сваю наяўнасьць-прысутнасьць на выбарах. У няспынна-беспрасьветныя сьвяты не пілі гарэлкі. Як і ў будзёншчыну - піва. Не хацелася. Дый не было калі. Мы не былі ні камуністамі, ні нацыяналістамі, ні постмадэрністамі, ні баптыстамі, ні аматарамі боўтацца ў ледзяное вадзе, што некаторым дужа разумным галовам чамусьці падабаецца называць закальваньнем. Нават ніколі не станавіліся ў маўклівыя чэргі. А глейкага айчыннага масла, якое практычна немагчыма было намазаць на акраец хлеба, таму што яно рассыпалася на дробнае цьвёрдае крошыва, ня елі ўвогуле. І не вадзілі ў дзіцячы садок сваю дачушку. Там яе лупцавалі. Не выхавацелькі - чужыя дзеці. Таўсамаценькім цётухнам-выхавацелькам было ўсё роўна.

Мы садзілі свой агарод. А тое, што на ім вырастала, прадавалі. Спачатку было толькі чатыры соткі. Потым пяць. Потым дзесяць. Потым - пятнаццаць гэктараў. І гэта ўжо быў не гарод, а поле. І на ім... Зазірніце ў «Практычны дапаможнік уладальніку фэрмэрскай гаспадаркі», і вы зразумеце, што магло быць на ім. Трохі каласілася ня толькі на полі, але й на рахунках. На маім, рублёвым, ды на жончыным, валютным. За гэта нас не любілі таксама. Нават стары, як сьвет, дабіты, яшчэ бацькавы легкавік - і той быў, здаецца, для некаторых косткаю... А Тацяна, мая супруга, яшчэ падбівала мяне прадаць яго ды ўзяць што навейшае. Толькі яшчэ быў ня час, ня час... «Ну ты й дурны!» - чуў я неаднаразова. І ня толькі ад жонкі. Ад сябрукоў-таварышаў, зь якімі таксама ў мяне не было калі. Калі, вядома, яны не працавалі на маё поле.

Мне было пляваць. Ня ведаю, як ёй. Урэшце, ведаю. Яна перажывала. І моцна. Але трывала. Хавала. Трымалася, як магла. І ўсё йшло добра. Сваім парадкам. Сваім шэрагам. Пакуль не згарэў першы дом. І нічога не засталося. Нічога не ўдалося ўратаваць. А тое, што засталося, ратаваць было бессэнсоўна. Спагасьнікі прыехалі надта позна.

Але на маіх руках спалоханым зьвераняткам ціснулася да мяне наша кірпатуля-малятка Настачка. Побач са мною, калоцячыся, стаяла ў чырвані надыходзячага сьвітанку мая Тацяна. І трэ' было ўсё пачынаць спачатку.

Толькі адразу не давялося... Таму што ў местачковае падатковае гіншпэкцыі знайшлася адна мудрая галава-кручкатворына, якая ўгледзела ў нейкае мае папэрыне блытаніну. Ага, дзе блытаніна, там утойваньне. А дзе ўтойваньне, там штраф. Ды не абы які. Плюс сума ўтоеных даходаў. Радок лічбаў займеў унушальную даўжыню... Штраф плаціць я адмовіўся. Вырак: канфыскацыя! Уся мая сельскагаспадарчая тэхніка пайшла з малатка.

Добра. Заставаліся яшчэ грошы. Зьнянацку ў маім банку перагледзелі адсоткі. Па ўкладах - ляснулі, па крэдытах - скочылі ўвышыню. Астатняе padaбрала гінфляцыя ды пагашэньні пазыкаў. У банку, дзе ляжалі грошы Тацяны, валютныя ўклады ўвогуле замарозілі. На няпэўны тэрмін, які цягнецца па сёньняшні дзень.

Дом будаваць не было як. Жылі пакуль у цешчы. Яна ня надта любіла нашу дачку. Ня ведаю, чаму. Цешча хутка памерла. Ад раку. Цесьць адразу ветліва папрасіў з хаты.

«Таму што прыводжу бабу і буду жыць зь ёю! Самі бачыце... лішнія».

Ну што ж.

Зьнялі кватэру. Я сеў за баранку трэлеру. Тацяна, пазычыўшы грошай, пайшла стаяць на базар. Было тое зімою. Я зьбіраўся ехаць рэйсам у Нямеччыну. Ноччу. І гэтай жа ноччу, калі трэлер стаяў каля хаты, хтосьці далез да бакаў ды зьліў салярку. Амаль усю, да рэшты. Нават запасныя каністры - і тое сьцягнулі, сволачы.

На датчык зірнуў толькі за горадам. Лес, кругом лес. Куды толькі кінуць вокам. Трэлер стаяў мёртва. І ніхто не спыняўся. І ніводнага дальнабойшчыка. І раптам, у нейкае вокамгненьне. Дутыя мэрсэдэсы, скураныя хлопчыкі. Білі жорстка, злосна, амаль як забіць. Не ўратавала й манціроўка. Руку прастэлілі й па ёй перацягнулі жалезьзем. Вочы й кроў, боль і абцасы. Шчыра, не шкадуючы, лілі ў горла каньяк. Пацягнулі ў лес, двое з двух бакоў рэзка тузанулі за рукі, каб тварам - аб дрэва.

Усё, болей ня памятаю.

Трэлер разрабавалі.

І, адагнаўшы, скінулі ў кар'ер.

Я нейк усё ж ачуняў. І папоўз. І выпаўз. На дарогу. Прастрэленая рука з таго часу амаль чужая.

Крымінальная справа... Не было аніякай крымінальнай справы. Таму што ў паліцыі так і не паверылі, што я ў той дзень - ані грама. Што ані грама ўвогуле - не паверылі таксама.

На фірме на мяне навесілі страшэнную лічбу выдаткаў. Каб хоць неяк, хоць штосьці, жонка распрадала ўвесь тавар па аптовых коштах. Толькі гэта было нішто. У Тацяны пачало нэрвова тузацца вока. Пачала балець галава, так, што хоць біся аб сьценку. Нашага маленькага сабачку, якога так любіла Настачка, і які анікому за ўсё сваё маленькае жыцьцё не зрабіў аніякага зла, хтосьці калком прыбіў да зямлі. Сярод белага дня.

Я пакуль уладкаваўся на аўтамыйку. Машыны мыць прыязджалі розныя. Ад іх перападала ня толькі гаспадару... Пад вечар пашкоджаная рука адвальвалася проста прэч. Але прыйшоў час і прыйшоў дзень. Аўтамыйку расстралялі з аўтаматаў. Жывёльнае пачуцьцё: ведаць, адчуваць, што зараз цябе распора нешта гарачае й вокамгненнае. Зь ямкі, поўнае халоднае вады, я вылез позьнім вечарам.

Зброя, мне патрэбна была зброя.

Зброя зьявілася. І ня проста пісталецік-пужалка. У адным патаемным мейсцы, якое ведаў адзін толькі я, з бегам часу было складзена ўсё, што трэба. Калі шчыра, за зброю хацелася ўзяцца. Карцела. Смыліла. Толькі яшчэ быў ня час, ня час...

Галава Тацяне балела ўсё болей і болей. А потым яна пачала згасаць. Хвароба... Урэшце, што называць хваробу? Плюньце ў вочы таму, хто скажа вам, што рак у спадчыну не перадаецца.

Тацяна згадзілася на апэрацыю. І яе зрабілі. І жонка заўважна ачуняла, палепшала. Трошкі палёгчала й мне. Пакуль у шпіталі не пераблыталі кропельніцу ды не ўвялі ёй чорт ведама што. І гэтага чорт ведама чаго хапіла напоўніцу...

Я пахаваў жонку побач зь цешчаю. Роўна год таму.

На мне засталіся мая маленькая Настачка ды сызыфавым непазьбежным каменем - пазыкі. Той-сёй з крэдытораў пачаў нагадваць пра іх даволі настойліва. Уключыўся «лічыльнік». Я прыкінуў: каб аддаць усе грошы, мне давядзецца круціць гайку ля станку ці тую ж баранку гадоў сто - сто пяцьдзесят, ня меней.

Я ўзяўся за кантрабанду цыгарэтамі ды сьпірытусам. Гэта было рызыкантна, было нэрвова. Але прыбыткова. І пазыкі памалу пачалі расставаць. Купіў новую машыну. Склаў-сабраў хоць які, але маленькі свой дамок. І як мог, песьціў-гадаваў сваю Настачку.

Пакуль ня скралі мае цыгарэты. Усе, да апошняга блёку, на некалькі тысяч даляраў. Скралі свае ж. Тыя, каму я стала падвозіў тавар. Усё было да сьмешнасьці элемэнтарна. Пазванілі й спыталіся, ці ўжо прывёз? Прывёз, кажу, пад'язджайце да мяне ў столькі й у столькі. Яны пад'ехалі. Толькі ня ў столькі й у столькі, а адразу, як толькі затэлефанавалі. Пакуль я сядзеў ды чакаў іх у сябе дома. А яны паехалі да майго гаража, які я арандаваў на іншым канцы мястэчку. Успаролі й усё загрузілі. І пазванілі адразу: сёньня пакуль ня можам, пад'едзем заўтра. Заўтра дык заўтра...

Заўтра я мог паскардзіцца хіба свайму дурному адлюстраваньню ў люстэрку.

Некалькі разоў мяне жорстка зьбівалі. За пазычаныя-перапазычаныя й не аддадзеныя грошы. Трэба было прадаваць машыну. Не давялося. Таму што яе раскурочылі. На стаянцы побач з домам. У перадок ўпароўся нейкі перапіты ўшчэнт ідыёт. Рухавік - да рэшты. Ідыёт усё ж здолеў урэзаць па газах. Болей яго ніхто ня бачыў. Я - таксама. Гэтак жа, як ня бачыў, як ён разьбіваў машыну. Таму што гуляў з маёй Настачкай па паркавае алейцы... На шчасьце, яна проста йшла побач, уклаўшы сваю цёпленькую далоньку ў маю руку ды шчабятала-шчабятала пра ўсё, што бачыць навокал. І як мне хацелася, каб ёй у жыцьці шанцавала хоць крышачку болей.

І - нібыта павеяла ветрыкам. Нават прахалодаю: мае пазыкі паступова расталі, як сьнег. Не пытайцеся, што ды як. Хто з нас, урэшце, не навучаны балянсаваць на мяжы?.. Але я нікога не зацягнуў туды, дзе камусьці магло б выбіць зубы.

А ўчора... Мяне не было дома. Настачка заставалася адна. Я адыйшоў па неадкладнае справе. Яны апошнім часам былі ўсе неадкладныя. Дачушка была папярэджана: ані слоўку, ані гучку. Хто б ні пагрукаў-ні пазваніў. Толькі, толькі...

Я прыйшоў... Знайшоў акуратна замкнёныя дзьверы. Спакойна адчыніў сваім ключом. Было ціха.

«Настачка!»

Ціха-ціха. Да адчаёвае змрочнасьці.

«Насьця, ты дзе?»

Здавалася, ад цішыні не вытрываюць перапонкі.

«Настуся!..»

Я абыйшоў увесь наш маленькі дамок. Я зазірнуў у кожны куток, у кожную шчыліну.

«Наста!.. Азавіся!»

Настачкі нідзе не было.

Я кінуўся прэч, гатовы бегчы, ляцець, падаць, разьбівацца ў крывавую гразь.

Сваю дачушку, сваю маленькую, любенькую дачушку я знайшоў на паркавае алейцы. Знайшоў расшкамутанае, страшнае цельца, якому ўжо ніколі не трапятаць у маіх руках. Тое, што зь ёю з р а б і л і . . .

..............................................................

І надыйшла раніца.

Доўга стаяў я ля маленькага, сьвежанасыпанага грудочку, пакуль вочы мае... Пакуль рукі мае... Пакуль кроў мая...

Галавіца чорнага, змазанага карабіну ладна лягла мне ў далонь. Другою даланёю я правёў па халоднае рулі.

Сьмерць была ўжо ня толькі са мною, але й ва мне.

Патроны разрывалі глыбокія мае кішэні. Нянавісьць гадзюкамі распаўзалася па бунтуючых жылах.

Я ўрэшце зрабіў свой выбар.

Так, гэта я абліў бэнзынаю свой адзінокі маленькі дамок, свой апошні прыстанак. І гэта адсюль я зьбіраўся пачаць свой незваротны фатальны шлях.

І зрабіў першы крок. І мае ногі - не паслухаліся мяне. На могілкі йшлі яны. На могілкі, на растаптаныя, на разрабаваныя могілкі. Дзе былі паламаныя крыжы ды зьвернутыя надмагільлі. Дзе ляжалі ў спачыне трывожным мае, вашыя, чужыя... Дзе хтосьці спаганіў апошні прыстанак бацькоў, магчыма, той самы вылюдак, які гвалтам разьдзер маю дачку.

І апусьцілася вінтоўка ў шэрхлае лісьце. Бразнулі рамяні аб жалезьзе.

Рукі самі пацягнуліся прыбіраць бруд і мярзоцьце. Папраўляць хоць бы тое, што паправіць было яшчэ магчыма.

За сьпіною водблесьсю рассыпалася дагарэлае.

І недзе наперадзе ўпарта не хацела ўзыходзіць сонца.





# «Чорная дзірка»

## З кнігі Збігнева Бжэзінскага«Wielka szachownica» («Вялікая шахматная гульня»)

**Працяг. Пачатак у NN28-30.**

Асаблівае значэнне, якое надавалася праблеме «блізкага замежжа» ў расійскіх геапалітычных тэорыях, матывавалася тым, што некаторая форма разумення між Расіяй постімперскага перыяду і маладымі дзяржавамі здавалася абсалютнай неабходнасцю з пункту гледжання эканомікі і бяспекі. Аднак тым, што надавала дадзенай дыскусіі сюррэалістычныя акцэнты, было захаванне ўпэўненасці, што палітычная «інтэграцыя» былой імперыі з'яўляецца адначасова пажаданай, як і мажлівай, нягледзячы на тое, ці будзе гэтая інтэграцыя добраахвотнай (з эканамічных прычынаў) альбо адбудзецца ў выніку будучага вяртання Расіяй сваёй страчанай магутнасці, не кажучы ўжо пра спецыяльную еўраазіяцкую або славянскую гістарычную місію Расіі.

Параўнанне з Еўрапейскім Саюзам, якое часта паўтараецца ў гэтым кантэксце, не ўлічвае некаторых істотных адрозненняў: у Еўрапейскім Саюзе, нягледзячы на ўплыў Германіі, няма нейкай адной дамінуючай дзяржавы, якая б мела перавагу перад астатнімі з пункту погляду нацыянальнага валавога прадукта брута (PNB), а таксама колькасці насельніцтва альбо памераў тэрыторыі. Еўрапейскі Саюз таксама не з'яўляецца нашчадкам нейкай нацыянальнай імперыі, вызваленае насельніцтва якой мае вялікія падозры наконт таго, што «інтэграцыя» з'яўляецца прыкрыццём для новага прыгнёту. Урэшце, лёгка сабе ўявіць рэакцыю еўрапейскіх дзяржаваў, калі б Германія афіцыйна заявіла, што яе задачай з'яўляецца ўзмацненне і пашырэнне яе кіруючай ролі ў Саюзе, як гэта зрабіла Расія ў дэкларацыі, прынятай у верасні 1995 года.

Аналогія з Еўрапейскім Саюзам з'яўляецца недарэчнай яшчэ з адной прычыны. Адкрытыя і досыць развітыя эканомікі заходніх дзяржаваў былі падрыхтаваныя да дэмакратычнай інтэграцыі, і большасць насельніцтва Заходняй Еўропы бачыла ў такой інтэграцыі адчувальную эканамічную і палітычную выгаду. Больш бедныя заходнееўрапейскія дзяржавы таксама маглі карыстацца значнымі датацыямі. Маладыя незалежныя рэспублікі бачылі ў Расіі краіну з нестабільнай палітыкай і ранейшымі амбіцыямі гегемона, перашкоду для іх удзелу ў сусветнай эканамічнай сістэме, якая блакавала іх доступ да надзвычай неабходных замежных інвестыцыяў.

Супраціўленне маскоўскай «інтэграцыйнай» канцэпцыі было даволі моцным на Украіне. Яе кіраўнікі хутка зарыентаваліся, што падобная «інтэграцыя», асабліва ў святле расійскіх пярэчанняў на права Украіны быць незалежнай, абумовіла б урэшце рэшт страту нацыянальнага суверэнітэту. Апрача таго, дастаткова грубыя адносіны Расіі да маладой украінскай дзяржавы, нежаданне прызнаваць межы Украіны, спробы аспрэчыць права Украіны на Крым і патрабаванне экстэрытарыяльнасці для порта ў Севастопалі, - усё гэта выклікала сітуацыю, калі украінскія нацыяналісты ўсё больш актыўна пачалі дэманстраваць антырасійскія настрої. Самавызначэнне украінскага народа ў вельмі важны ў гістарычным сэнсе перыяд фармавання новай дзяржавы не было заснавана на традыцыйнай антыпольскай ці антырумынскай арыентацыі; украінцы засяродзіліся на супрацьдзеянні расійскім планам больш цесна інтэграваць СНД, стварыць саюз славянскіх дзяржаваў (у які б увайшлі Расія, Украіна і Беларусь) ці еўраазіяцкі саюз, успрымаючы ўсе гэтыя праекты як імперскую тактыку Расіі.

Знешняя падтрымка надавала Украіне больш упэўненасці ў захаванні сваёй незалежнасці. Хаця спярша Захад, і асабліва Амерыка, марудзілі з прызнаннем геапалітычнага значэння незалежнай украінскай дзяржавы. Але ў сярэдзіне 90-х гадоў ЗША, як і Германія, пачалі рашуча падтрымліваць асаблівае палітычнае самавызначэнне Кіева. У ліпені 1996 года амерыканскі сакратар па пытаннях абароны заявіў: «Цяжка пераацаніць, наколькі важнай з'яўляецца незалежнасць Украіны для бяспекі і стабільнасці ва ўсёй Еўропе». А ў верасні нямецкі канцлер, нягледзячы на тое, што актыўна падтрымліваў прэзідэнта Ельцына, рушыў яшчэ далей, сцвярджаючы: «Ужо ніхто не можа парушыць трывалае месца Украіны ў Еўропе... Ужо ніхто не здолее аспрэчваць як незалежнасць Украіны, так і яе тэрытарыяльную цэласнасць». Палітыкі ЗША таксама назвалі амерыкана-украінскія адносіны «стратэгічным партнёрствам», мэтанакіравана карыстаючыся тым жа азначэннем, што і ў выпадку з амерыкана-расійскімі адносінамі.

Без Украіны, як мы ўжо адзначалі, аднаўленне імперыі, якая абапіралася на СНД ці ідэю еўраазіяцкасці было б немагчымым. Імперыя без Украіны зрабіла б Расію яшчэ больш «азіяцкай» і яшчэ больш далёкай ад Еўропы. Канцэпцыя еўраазіяцкасці не ўяўляе асаблівага інтарэсу і для маладых незалежных дзяржаваў Сярэдняй Азіі; толькі некаторыя з іх мелі жаданне быць у саюзе з Расіяй. Супраціўленне Украіны ініцыятывам Расіі, скіраваным на ўмацаванне ролі СНД і ператварэнне яго ў наднацыянальнае цэлае, пачаў вельмі актыўна падтрымліваць Узбекістан.

Іншыя дзяржавы-члены СНД, таксама няўпэўненыя ў намерах Расіі, аб'ядналіся вакол Украіны і Узбекістана, аказваючы супраціўленне расійскаму націску на фарсіраванне палітычнай і вайсковай інтэграцыі, ці проста выкарыстоўваючы тактычныя хітрыкі. Акрамя гэтага, амаль ва ўсіх маладых дзяржавах расло пачуццё нацыянальнага самавызначэння, што выяўлялася ў адмаўленні падпарадкавання Маскве (якое ўспрымалася як каланізацыя), а таксама ў спробах ліквідацыі ўсялякіх сведчанняў расійскага панавання. Нават этнічна падзелены Казахстан пайшоў следам за іншымі дзяржавамі Сярэдняй Азіі, якія адмовіліся выкарыстоўваць кірыліцу і замянілі яе на лацінскі алфавіт, як раней гэта зрабіла Турцыя. З гэтай прычыны ў сярэдзіне 90-х гадоў нефармальна сфармаваўся блок дзяржаваў, які аказваў супраціўленне намерам Расіі выкарыстоўваць СНД у якасці інструмента палітычнай інтэграцыі. Незаўважным лідарам гэтага блоку стала Украіна. Апрача яе ў блок уваходзілі Узбекістан, Туркменістан і Азербайджан, а калі-нікалі ім падыгрывалі Казахстан, Грузія і Малдова.

Упор Украіны на тое, каб спыніцца на абмежаванай інтэграцыі, якая мела пераважна эканамічны характар, прывёў да страты ідэяй «славянскага саюза» свайго практычнага значэння. Прапагандуемая невялікай групай славянафілаў, яна была агучана дзякуючы падтрымцы Аляксандра Салжаніцына, а непрыманне гэтай ідэі з боку Украіны пазбавіла яе геапалітычнага зместу. Без Украіны Расіі заставалася толькі Беларусь. І яшчэ мог бы здарыцца падзел Казахстана, паўночныя раёны якога насяляюць рускія, якія маглі ўвайсці ў такі саюз, што ў сваю чаргу рэзка актывізавала б казахскі нацыяналізм, які ўсё больш набываў антырасійскую афарбоўку. Славянскі саюз без Украіны для Беларусі азначаў бы па сутнасці далучэнне да Расіі, што таксама выклікала б у гэтай рэспубліцы абвастрэнне нацыяналістычных настрояў.

Знешнія перашкоды правядзенню палітыкі «блізкага замежжа» ўзмацняліся ўнутранымі фактарамі, г.зн. настроямі расіянаў. Нягледзячы на рыторыку кіруючай эліты і палітычную інтэграцыю на тэму надзвычайнай гістарычнай місіі Расіі на тэрыторыі былой імперыі, расійскі народ, з аднаго боку, з прычыны звычайнай стомленасці, а з другога, у выніку здаровага розуму не праявіў асаблівага запалу да падтрымкі амбіцыёзных планаў па адраджэнню імперыі. Расіяне выказаліся за адкрытыя межы, свабодны гандаль, свабоднае перамяшчэнне і прывілеяваны статус рускай мовы. Што ж датычыць палітычнай інтэграцыі, якая ў іх асацыяруецца з эканамічнымі выдаткамі, праліццём крыві, то яна асаблівага энтузіязму не выклікала. Канешне, распад Саюза выклікаў шкадаванне, яго абяцалі адрадзіць, але рэакцыя грамадскай думкі на вайну ў Чачні сведчыла пра тое, што палітыка, якая выходзіла за межы эканамічнага ці палітычнага націску, не карысталася папулярнасцю.

Карацей кажучы, асноўныя геапалітычныя недахопы канцэпцыі «блізкага замежжа» заключаліся ў тым, што Расія была недастаткова моцнай палітычна, каб навязаць незалежным рэспублікам сваю волю і недастаткова цікавай у эканамічным сэнсе, каб іх аб'яднаць. Расійскі націск прывёў да таго, што новыя дзяржавы пачалі наладжваць усё болей цесныя адносіны з замежжам, у першую чаргу з Захадам, а ў некаторых выпадках нават з Кітаем і асноўнымі ісламскімі дзяржавамі на поўдні. Калі Расія пачала пагражаць, што ў выпадку пашырэння NATO яна створыць свой ваенны блок, то паўстае пытанне: «З кім?». Адказ надта балючы. У лепшым выпадку з Беларуссю і Таджыкістанам.

У сітуацыі, якая склалася, маладыя незалежныя дзяржавы з недаверам падыходзілі нават да цалкам прававых і выгадных формаў эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, асцерагаючыся патэнцыяльных палітычных наступстваў. Адначасова тэорыя аб уяўнай еўраазіяцкай місіі Расіі і містычных рысах славянскай душы ўсё больш ізалявала Расію ад Еўропы і Захада, падаўжаючы постсавецкі крызіс і замаруджваючы так неабходную мадэрнізацыю расійскага грамадства па заходняму ўзору паводле сцэнару рэформаў, праведзеных у Турцыі Камілам Ататуркам пасля падзення Асманскай імперыі. Такім чынам, канцэпцыя «блізкага замежжа» прапануе Расіі не вырашэнне яе геапалітычных праблемаў, а геапалітычна нездзяйсняльную мару.

Што ж застаецца Расіі, калі не сумеснае кіраванне светам у кандамініуме з Амерыкай і не «блізкае замежжа»? Прыхільнікі празаходняй арыентацыі аказаліся няздольнымі пабудаваць «дэмакратычную Расію», якая была хутчэй лозунгам, чым рэальнасцю, і зрабіць яе роўным партнёрам Амерыкі. Гэта выклікала расчараванне сярод дэмакратаў, асэнсаванне ж таго, што «рэінтэграцыя» былой імперыі з'яўляецца ў лепшым выпадку малаверагоднай, вымусіла частку расійскіх геапалітыкаў разглядзець ідэю стварэння контрсаюза, які б мог супрацьстаяць гегемоніі Амерыкі ў Еўразіі.

У пачатку 1996 года прэзідэнт Ельцын зняў з пасады свайго празаходне настроенага міністра замежных справаў Андрэя Козырава і замяніў яго чалавекам больш дасведчаным, знаўцам міжнародных пытанняў Яўгенам Прымаковым, былым артадаксальным камуністам, які выяўляў асаблівы інтарэс да Ірана і Кітая. Некаторыя расійскія каментатары паспяшаліся заявіць, што арыентацыі Прымакова могуць прывесці да спробы стварэння новай «антыгегеманісцкай кааліцыі», у складзе якой будуць Расія, Кітай ды Іран, г.зн. дзяржавы, найбольш геапалітычна зацікаўленыя ў абмежаванні прымату Амерыкі ў Еўразіі. Гэтыя меркаванні ўзмацніліся пасля першых паездак і выказванняў Прымакова. Акрамя гэтага, гандаль зброяй з Кітаем ды Іранам, а таксама супрацоўніцтва Расіі, скіраванае на палягчэнне доступу Ірана да ядзернай энергіі, здавалася, сведчылі пра тое, што з'явілася мажлівасць больш цеснага палітычнага дыялогу і стварэння саюза. У выніку, ва ўсякім выпадку тэарэтычна, вядучая славянская дзяржава магла б стварыць магутную кааліцыю з найбольш ваяўнічай ісламскай дзяржавай і найбольш моцнай азіяцкай дзяржавай з самым шматлікім у свеце насельніцтвам.



Зыходным пунктам стварэння такога контрсаюза павінна было паслужыць узнаўленне двухбаковых расійска-кітайскіх адносінаў; гэтага можна было б дасягнуць пры выкарыстанні незадаволенасці кіруючай эліты абедзвюх дзяржаваў тым, што Амерыка па сутнасці засталася адзінай у свеце супердзяржавай. У пачатку 1996 года падчас свайго візіту ў Пекін Ельцын падпісаў дэкларацыю, якая асуджае «гегеманісцкія» тэндэнцыі ў сусветнай палітыцы, што сведчыла пра з'яўленне магчымасці аб'яднання дзвюх дзяржаваў супраць ЗША. У снежні кітайскі прэм'ер Лі Пэн адказаў узаемным візітам, і абодва бакі не толькі паўтарылі намер процістаяць «панаванню адной дзяржавы» ў міжнародных пытаннях, але і выказаліся за ўмацаванне існуючых паміж імі адносінаў. Расійскія каментатары ўспрынялі гэтыя падзеі з ўхваленнем, заўважаючы ў іх парасткі пазітыўных зменаў у галіне ўраўнаважання сіл на сусветнай арэне, а таксама неабходную рэакцыю на амерыканскую падтрымку пашырэння NATO. Некаторыя з іх выказалі радасць з нагоды таго, што расійска-кітайскі саюз урэшце задасць Амерыцы добры ўрок.

Аднак кааліцыя, якая аб'ядная Расію з Кітаем ды Іранам, можа ўзнікнуць толькі ў тым выпадку, калі ЗША будуць настолькі блізарукімі, каб не антаганізаваць Кітай ды Іран адначасова. Канешне, нельга выключыць такую магчымасць. Амерыканская палітыка ў 1995-1996 гадах стварала ўражанне, што ЗША нібы наўмысна імкнуліся пагоршыць свае адносіны як з Тэгеранам, так і з Пекінам. Апроч гэтага, ні Іран, ні Кітай не мелі жадання звязваць свой лёс са стратэгічным саюзам з Расіяй, краінай нестабільнай і слабой. Абедзве гэтыя дзяржавы разумелі, што такая кааліцыя, якая азначала нешта большае, чым выпадковыя сумесныя дзеянні тактычнага характару, звязвалася з рызыкай павелічэння ізаляцыі ад краінаў больш развітых з іх інвестыцыйным патэнцыялам і доступам да надзвычай неабходных сучасных тэхналогіяў. Расія надта мала магла прапанаваць, каб быць сапраўды каштоўным партнёрам у антыгегеманісцкай кааліцыі.

З-за адсутнасці агульнай ідэалогіі такая кааліцыя, заснаваная толькі на «антыгегеманісцкіх» пачуццях, была б па сутнасці саюзам некалькіх краінаў трэцяга свету, накіраваным супраць найбольш развітых дзяржаваў першага свету. Ніводны з яе членаў ад гэтага не выйграў бы, а Кітай рызыкаваў бы страціць наплыў вялізных замежных інвестыцыяў. Тое ж самае датычыць і Расіі, «уяўнасць расійска-кітайскага саюза... значна павялічыла б верагоднасць таго, што Расія зноў была б адрэзана ад заходніх тэхналогій і капіталу», - як заўважыў адзін з расійскіх геапалітыкаў, якія крытычна ставіліся да планаў стварэння падобнага саюза. **(А. Батураў. «Сённяшнія адносіны і перспектывы інтэракцый паміж Расіяй і Злучанымі Штатамі Амерыкі»// «Независимая газета», 28 чэрвеня 1996 года).** Стварэнне такой кааліцыі абудзіла б усіх яе ўдзельнікаў, колькі б іх ні было - двое, трое - на працяглую ізаляцыю і адсталасць.

. Акрамя ўсяго, калі б Расія зрабіла нейкія сур'ёзныя спробы надаць антыгегеманісцкай кааліцыі рэальныя абрысы, Кітай у ёй іграў бы першую скрыпку. Як краіна з вялікай колькасцю насельніцтва, больш прадпрымальная, больш наватарская, больш дынамічная і якая мае тэрытарыяльныя прэтэнзіі да Расіі, Кітай немінуча адвёў бы ёй ролю больш слабога партнёра, не маючы сродкаў (і, несумненна, жадання) дапамагаючы ёй адолець адсталасць. Расія тады стала б буфернай дзяржавай паміж Еўропай, якая ўсё больш пашыраецца, і экспансіянісцкім Кітаем.

Нарэшце, некаторыя расійскія знаўцы міжнародных пытанняў паранейшаму спадзяваліся, што застой у еўрапейскай інтэграцыі, звязаны, мажліва, з узнікненнем розных меркаванняў сярод заходніх дзяржаваў на тэму будучых межаў NATO, мог бы стварыць сама меней тактычныя магчымасці для флірту Расіі з Германіяй ці Францыяй, што ў любым выпадку абумовіла б пагаршэнне адносінаў паміж Еўропай і Амерыкай. Гэтыя тэорыі не былі новымі, бо на працягу ўсяго перыяду халоднай вайны Масква час ад часу спрабавала разыграць нямецкую ці французскую карту. Нягледзячы на гэта, разлікі часткі маскоўскіх геапалітыкаў на тое, што замаруджванне працэсу еўрапейскай інтэграцыі стварыла б тактычныя магчымасці, якія можна будзе выкарыстоўваць не на карысць Амерыкі, мелі некаторы сэнс.

Але тактычныя мажлівасці - гэта адзінае, што можна атрымаць такім чынам. Малаверагодна, што Германія ці Францыя адмовіліся б ад саюза з Амерыкай. Выпадковыя флірты з Расіяй, асабліва з боку Францыі, якія групаваліся вакол нейкай вузкай праблемы, канешне ж, нельга выключыць, але пераварот у галіне геапалітычных саюзаў павінен быць папярэджаны моцным узрушэннем на тэрыторыі Еўропы, паразай інтэграцыі кантыненту і зрывам атлантычных сувязяў. Апроч гэтага, малаверагодным здаецца, каб еўрапейскія дзяржавы пажадалі заключыць рэальны геапалітычны саюз з дэзарганізаванай Расіяй, якая не мае дакладнага палітычнага накірунку.

У сувязі з усім вышэйсказаным, ніводны з варыянтаў стварэння контрсаюза не з'яўляецца канцэпцыяй, магчымай для рэалізацыі. Контрсаюз з Кітаем ды Іранам, таксама як і ілюзіі стратэгічнага партнёрства з Амерыкай альбо спробы замяніць былы Савецкі Саюз новай «інтэграванай» структурай у палітычнай і эканамічнай галіне не вырашаць новых геапалітычных дылемаў Расіі. Усе гэтыя варыянты не прадугледжваюць той адзінай мажлівасці, якая па сутнасці засталася для Расіі.

**Працяг будзе**

# Сустрэнем «інтэграстаў» Алімпіядай БНР

**Менавіта так вырашыў Малады Фронт і распачаў гэтае доўгачаканае свята.**

Увечары першага траўня пад пільным наглядам міліцыі і АМАПу адбылося афіцыйнае адкрыццё. Старажытная Каложа, запаленыя паходні, бел-чырвона-белыя сцягі - гэта быў толькі знешні выгляд.

А 21-й гадзіне пад песню НРМ «Партызанская» была ўнесена запаленая паходня. Як зазначыў намеснік старшыні Маладога Фронту Сяржук Паўленка, «гэтая паходня была запаленая ў ЗША Івонкай Сурвіллай і прывезена самалётам у Гродна».

Затым быў узняты бел-чырвона-белы сцяг адным з герояў 25 сакавіка. Цікава тое, што гэта адбывалася пад песню «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Запаленай паходняй «ад Івонкі Сурвіллы» былі як бы асвечаны ўбітыя ў зямлю навокал помніка «Пагоня на Грунвальд» астатнія чатыры паходні. Зазначым той факт, што хлопцы з Маладога Фронту, якія ішлі да Каложы са сцягамі, былі прыпынены міліцыяй. Пасля патрабаванняў міліцыянтаў разгарнуць сцяг (што было выканана), хлопцаў здзівіла фраза: «А, гэта сцяг БНФ! З гэтым можна!». Акрамя сцяга БНФ на гэтым свяце былі сцягі Маладога Фронту і незвычайны, своеасаблівага колеру, сцяг спартовай камісіі Маладога Фронту.

Наглядальнікамі гэтай святочнай дзеі былі, зразумела, розныя асобы, сярод якіх вылучаюцца вядомыя людзі Гарадзеншчыны: Сяргей Мальчык, старшыня Гарадзенскай рады БНФ «Адраджэнне»; Аляксандр Мілінкевіч, старшыня грамадскага аб'яднання «Ратуша» і вядомы палітык Сямён Домаш, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання.



**З такімі замашкамі ў адносінах да рэжыму - толькі ў Малады Фронт!**

Пасля афіцыйнай часткі пачался неафіцыйная - невялічкі бардаўскі канцэрт. Гучалі песні як вядомых бардаў, так і ўласныя; не трэба здзіўляцца, але хлопцы і дзяўчаты ведаюць такую колькасць беларускіх песень, што канцэрт мог бы працягвацца ўсю ноч.

Але прыкладна а 23-й гадзіне адкрыццё завяршылася.

На наступны дзень, другога траўня, адбыліся наступныя спаборніцтвы: бег на 60м, кіданне гранаты і футбол.

Футбольны матч адбыўся паміж хлопцамі з Маладога Фронту і школьнікамі сярэдняй школы N18. Гульня працягвалася два таймы і скончылася амаль унічыю - 9:10. Арбітр чамусьці не залічыў апошні гол, забіты вядомым форвардам каманды Маладога Фронту Паўлам Мажэйкам.

У дзень здачы газеты ў друк адбылiся чарговыя спаборніцтвы: у 16.30 - стральба, у 17.30 - армрэслінг.

Наступныя спаборніцтвы адбудуцца:

4.05 у 16.00 - літаратурныя чытанні (управа БНФ «Адраджэнне», вул. К.Маркса,11);

4.05 у 18.00 - баскетбол;

5.05 у 16.00 - шахматы; карыкатуры (управа БНФ «Адраджэнне»);

6.05 у 18.00 - конкурс «Гэй, беларусачка!»;

6.05 у 20.00 - конкурс аўтарскай песні;

7.05 у 16.00 - закрыццё Алімпіяды.

**Падрыхтаваў К.Міхельсон**

# Веснавы перапуд

**У галерэі «Тызенгаўз» адкрылася новая выстава - «Веснавы пярэпалах» - яе назва поўнасцю адпавядае зместу.**

Падчас адкрыцця дырэктар галерэі Аляксандр Ларыёнаў выказаўся наступным чынам: «Сёння мы паказваем вялікае мноства мастакоў і прафесійных узроўняў. У нашай выставе ўзялі ўдзел і карыфеі, і дэбютанты, зусім невядомыя маладыя мастакі. Сакрэт нашай галерэі такі: мы паказваем усё, што ёсць у мастацкім жыцці горада. У Гродне, акрамя нас, ёсць яшчэ некалькі выставачных залаў: зала саюза мастакоў, залы ў Новым замку гісторыка-археалагічнага музея, «У Майстра». Яны здымаюць вяршкі. Выставай «Веснавы пярэпалах» мы хацелі паказаць сваю галерэйскую ўсяяднасць - у нас выстаўляюцца тыя, хто сёння ў недаглядзе».

Выстава з'яднала тых мастакоў, якія за час дзейнасці галерэі «Тызенгаўз» выстаўлялі тут свае творы, і тых, хто толькі-толькі спрабуе свой яшчэ не апераны пэндзаль. Яркай ілюстрацыяй «кактэйльнага прынцыпу» стаў, да прыкладу, сумесны ўдзел патрыярха гарадскога мастацкага жыцця Уладзіміра Церабуна і студэнткі вучылішча мастацтваў Марыны Чайкі. Марына паказала восем акварэльных пейзажаў. Гэтая тэхніка, як вядома, даволі складаная. У школе на ўроках выяўленчага мастацтва ўсе мы патроху малюем тутэйшыя пейзажы. Марына Чайка прапануе сваё бачанне праз пералівістыя і празрыстыя «вадзяныя» фарбы. Дарэчы, выяўленню беларускага пейзажу надзвычай пасуе менавіта няяркая, замешаная на вадзе і вільгаці акварэль. І дарэмна дамагацца дасканаласці ў сакавітым алеі - ён маніць, у ім занадта яркасці і плоцкага смаку. Тутэйшая прырода, як і тутэйшая жанчына - някідкая, але яе глыбока захаваная прывабнасць уражвае вытанчанай чароўнасцю. Свой, вельмі элегантны варыянт прыгажосці прапанаваў гарадзенскі графік, фотамастак Антон Ляшчынскі. Некалькі месяцаў таму ў галерэі «У Майстра» праходзіла яго фотавыстава «Мастак і мадэль». У «Тызенгаўза» мы бачым мяккі, напаўграфічны - напаўжывапісны варыянт яго пошукаў распрацовак жаночай прыгажосці. Прафесійны выканаўчы ўзровень кантактуе з вытанчанай тугой па чароўным ідэале.

На вернісажы шмат паралеляў праводзілася паміж колішнім Фондам сучаснага мастацтва, кааператывам «Рунь» і сённяшняй прэзентацыяй. Як бачым, сучаснае гарадзенскае мастацтва прадстаўлена галоўным чынам рознымі варыяцыямі пейзажу. Акрамя таго, што гэта не нова, публіка знудзілася па іншых жанрах выяўленчага мастацтва - скульптуры, партрэце, розных-усялякіх інсталяцыях. На вернісажы было няшмат «выпадковых разявак» - магчыма, таму, што ў мітусні за кавалкам хлеба і каўбасы цяжка выкраіць гадзінку для хлеба духоўнага. А мо і таму, што неяк хочацца нечага новага, цікавага, так бы мовіць, перчыку, каб душа спачатку разгарнулася...

**Алена Сіневіч**

# Панацэя пахне часнаком!!!

**Людзі вырошчваюць часнок з даўніх часоў і для кулінарных патрэбаў, і для медычных мэтаў. Пра карысць часнака, яго гаючыь якасці, якія здольны абараніць чалавека ад грыпу, мы чуем з ранняга дзяцінства. «З'ясі з супам зубчык часнаку, - тады не захварэеш, - гаворыць бацькі дзецям, - ну й нічога, што так пахне, затое - карысны!».**

«Карысны» - гэта яшчэ слаба сказана! Часнок - сапраўдны скарб для чалавецтва, якому даводзіцца змагацца з сотнямі хвароб. Па шырыні выкарыстання з ім, бадай, і не параўнаеш ніякую іншую лекавую расліну. Мяркуйце самі, наколькі універсальным з'яўляецца часнок, які выкарыстоўваюць для лячэння рэспіраторных (насмарк, бранхіты, пнеўманія, астма і г.д.), страўнікавых (язва страўніка, дыярэя, амёбная дызентэрыя, глісты ды інш.), сардэчна-сасудзістых (атэраскляроз, гіпертанія ды інш.), скурных (экзема, вугры, нарывы, грыбковыя інфекцыі ды інш.) захворванняў.

Прывядзем некалькі рэцэптаў прыгатавання прэпаратаў з часнаку ў хатніх умовах. Ад прастуды, бранхіту і пнеўманіі дапаможа часночны пластыр. Дробна пакрышыце 5-8 галовак часнака. Выкладзіце на аркушы рыхлай паперы (сурвэтцы) і прыкладзіце пластыр паперным бокам да грудзей, зверху накрыйце тканінай, а потым сурвэткамі. Трымаць не больш за 20 хвілін.

Пры грыбковых інфекцыях паспрабуйце выкарыстаць гарачы часночны кампрэс. 3-6 зубчыкаў дробна пакрышанага часнака змяшайце з 0,5 літра гарачай вады. Дайце сумесі крыху астыць, намачыце ў ёй тканевую сурвэтку і прыкладзіце на хворы ўчастак скуры. Сачыце за тым, каб кампрэс заставаўся вільготным і гарачым, для чаго палівайце на яго зверху гарачай часночнай сумессю. Для кожнага наступнага кампрэсу трэба гатаваць свежую сумесь.

Калі ваша дзіцё мучаюць глісты, добрым сродкам барацьбы з паразітамі стануць часночныя клізмы. Два зубчыкі часнаку дробненька пакрышыце, змяшайце з цёплай вадой. Бывае, адной-дзвюх працэдур становіцца дастатковa, каб пазбавіць малое ад непрыемнасцяў. Часночныя клізмы карысныя пры грыпе і прастудзе.

А вось ванна для ног не толькі дапаможа перамагчы грыбковыя інфекцыі, але і стане цудоўным танізуючым сродкам пры ператашленні. 5-6 зубчыкаў часнака пакрышыце і змяшайце з 0,5 літра гарачай вады. Настойвайце на працягу гадзіны. У тазік наліце, прыкладна па шчыкалоткі, гарачай (наколькі магчыма трываць) вады, дадайце часночную сумесь. Трэба парыць ногі пятнаццаць хвілін, пры неабходнасці падліваючы гарачую ваду.

Для прафілактыкі грыпу і прастуды добра дапамагаюць часночныя каплі ў нос. Выцісніце сок з дробна пакрышанага часнака, дадайце 10 частак вады - каплі гатовыя!

Пры захворванні верхніх дыхальных шляхоў, хрыпаце, болях у горле вам дапамогуць часночныя сіропы. Вось рэцэпты двух такіх сіропаў.

1. 10-12 галовак часнаку прапусціце праз мясарубку. Тонкімі слаямі атрыманай масы і слаямі цукру, пераменна выкладваемымі, запоўніце слоік. Настойвайце два дні, пасля працадзіце. Ужывайце часночны сіроп з той жа перыядычнасцю, як і іншы сіроп ад кашлю.

2. Некалькі галовак пакрышанага часнаку пакладзіце ў чысты слоік і залейце вадкім мёдам пакаёвай тэмпературы. Настойвайце на працягу сутак. Прымайце пры болях у горле, бранхіце, кашлю кожныя паўгадзіны па чайнай лыжцы.

# Дзверы ў Еўропу зачыніліся

**«Нёман» (Гродна) - «Белшына» (Бабруйск) - 0:1 (1/4-я Кубка Беларусі)**

«Нёман»: Суліма, Нікулін (Петрашэвіч), Маміда, Драчылоўскі (к), Радушка, Барысейка (Тарашчык), Мазурчык, Крыванос, Пятроў, Тупіцкі, Цыбуль.

У параўнанні з папярэднім пераможным матчам чэмпіянату краіны склад гарадзенцаў перацярпеў пэўныя змены. На браме замест траўмаванага Рыбака з'явіўся Суліма, а адбыўшы дыскваліфікацыю Крыванос заняў месца левага хаўбека (яго мінулагодняя пазіцыя).

Безумоўным фаварытам пары спаборнікаў за выхад у фінал лічылася бабруйская каманда. Да таго падводзілі не толькі сённяшняя іерархія клубаў і больш класны набор выканаўцаў у гасцей, але і проста жахлівыя паказчыкі нёманцаў у асабістых сустрэчах з шыннікамі.

Першыя 10 хвілінаў пацвердзілі чаканы расклад: дружына Людаса Румбуціса трывала завалодала ініцыятывай. Кульмінацыяй пралогу стаў небяспечны стрэл пасля адвольнага - з цяжкасцю Суліма адвёў пагрозу. Спакваля, аднак, «Нёман» набраўся ўпэўненасці і павёў сваю контргульню. Пры гэтым асноўныя надзеі звязваліся ўжо традыцыйна з Цыбулем - раз-пораз Сяргей фінтамі раскідваў абаронцаў, але ў бабруйчанаў належна была арганізавана падстрахоўка. А самы вострый момант у першым тайме стварылі госці, калі Хлебасолаў ледзь не замкнуў прастрэл з левага флангу.

Пасля перапынку выглянула сонейка, але гульня была крыху нуднаватай. Першай зноў актывізавалася «Белшына», захапіўшая плацдарм у цэнтры поля. «Нёман» спрабаваў адказваць «фехтавальнымі» выпадамі. У адным з эпізодаў Цыбуль на рагу штрафной ўжо абыграў галкіпера Жэмчугава, але Кавалевіч паспеў заблакаваць дакладны ўдар. А на 80-й хвіліне гаспадароў спасцігла сапраўдная прыкрасць. Драчылоўскі з адвольнага адпасаваў на Барысейку, той прабіў у сценку, але пасля рыкашэту мяч падхапіў Мазурчык, элегантна развярнуўся і трапіў у... Цыбуля. У гэтым, праўда, была свая логіка - «Белшына» нагнятала напругу, і праз пяць хвілінаў здарыўся гол. Недарэчны па форме (пасля серыі рыкашэтаў у брамніцкай, вышаўшы на замену Гамановіч усё ж дамогся жаданага), але заканамерны. У дабаўлены час Тупіцкі мог параўняць лік, але не перакінуў брамніка.

Такім чынам, для «Нёмана» канчаткова зачыніліся дзверы на еўраарэну. Асаблівых папрокаў за чвэрцьфінал каманда не заслужыла, папросту патэнцыял «Белшыны» вышэйшы.

Вынікі астатніх матчаў 1/4-й фіналу:

БАТЭ - «Днепр-Трансмаш» - 2:1

«Гомель» - «Славія» - 0:1

«Маладэчна» - «Тарпеда»-МАЗ - 1:3.

**Уладзімір Хільмановіч**

# Мы ўсе вучыліся патроху

## (Хто што не напісаў)



**1. Пімен Панчанка:**
а) «Песня жаўрука»;
б) «Тысяча небасхілаў»;
в) «Крык сойкі».

**2. Валянцін Зуб:**
а) «Аперацыя «Шафа»;
б) «Чорны кот»;
в) «Аперацыя «Крыштталь».

**3. Карусь Каганец:**
а) «Дзед Даніла»;
б) «Кабзар»;
в) «Пра пана Ленскага».

**4. Змітрок Бядуля:**
а) «Прытуліся да мяне»;
б) «Ашчаслівіла»;
в) «Стаміўся».

**5. Уладзімір Дамашэвіч:**
а) «Каб радзіла зямля»;
б) «Соль жыцця»;
в) «Абуджэнне».

**6. Максім Гарэцкі:**
а) «Сон Анупрэя»;
б) «Дзёгаць»;
в) «Страхацце».

**7. Леаніла Чарняўская:**
а) «Стрэляны Вераб'ёў»;
б) «Казёл Мэка і Кудла»;
в) Кот Знайдзён».

**8. Гальяш Леўчык:**
а) «Годзе!»;
б) «Колькі можна!?»;
в) «Зламайце мне дудку».

**Правільныя адказы:** 1а, 2в, 3а, 4в, 5б, 6а, 7а, 8б.

**Падвядзем вынікі:** ***Такім чынам, тыя, хто правільна выбраў 8 варыянтаў адказаў - сапраўды малайцы! Проста выдатна! Калі сярод правільных адказаў у Вас 6-7 назваў твораў - вельмі добра! Хай не адчайваюцца і тыя, хто сярод верных адказаў налічыў усяго 1-5. Спадзяюся, што наступным разам заблытаць Вас мне будзе значна цяжэй, бо Ваша інтуіцыя абавязкова «прачнецца» і дапаможа Вам не памыліцца.***

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

**Адрас рэдакцыі:** 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Замова 2225 Наклад 4804 Нумар падпісаны да друку ў 16.00 03.05.1999 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадастаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два умоўныя друкаваныя аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: *Таццяна Лучыц*
Камп'ютарная вёрстка: *Аляксей Салей*